PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (2260) Год XLIV Беласток 5 верасня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Беларусь і пачатак II сусветнай вайны

Яўген МІРАНОВІЧ

Мінае шасцідзесятая гадавіна нямецкай агрэсіі на Польшчу. Неўзабаве будзе адзначацца можа яшчэ больш драżлівая дата — 17 верасня. Для палякаў абазначае яна савецкую агрэсію на Польшчу і акупацыю ўсходняй яе тэрыторыі. У Беларусі (на Украіне таксама) — гэта свята аб'яднання разарваных рыжскім трактатам беларускіх зямель.

Вайна ў 1939 г. была непазбежнай. Еўрапейская палітыка была здамінавана двума геніямі, але адначасова псіхапатамі — Сталіным і Гітлерам. Кожны з іх імкнуўся стварыць свой парадак на нашым кантыненце і кожны ведаў, што татальная вайна паміж Савецкім Саюзам і Нямеччынай непазбежная. Такога ходу падзей чакалі таксама ў Парыжы і Лондане і нават гэтага спецыяльна не скрывалі. Вынішчаным вайной саветам і немцам брытанцы і французы марылі навязаць сваю канцэпцыю палітычнага парадку ў Еўропе. Гітлер, хаця шмат гаварыў пра неабходнасць знішчэння камунізму, аднак у вайсковых нямецкіх штабах рыхтавалі вайну супраць Заходняй Еўропы. Нявырашанай была праблема Польшчы. Гітлер спачатку прапанаваў палякам далучыцца да нямецкага лагера, а пасля нейтралізаваць іх як патэнцыяльнага саюзніка французаў і брытанцаў. Рух на ўсход мог, аднак, справакаваць да вайны Сталіна. Таму Гітлер вырашыў падзяліцца з саветамі Усходняй Еўропай, аддаючы ім палову Польшчы, Малдову, Латвію, Эстонію і Фінляндыю. Атрымаў ён такім чынам чаканую нейтральнасць усходняй імперыі на час вайны з Захадам. Для Сталіна пакт Рыбентроп-Молатаў даваў патрэбны час на падрыхтоўку арміі і гаспадаркі да набліжаючайся вайны. Савецкі дыктатар зрабіў, аднак, памылку ў сваіх меркаваннях. Разлічваў, што вайна на Захадзе будзе трываць некалькі гадоў і рыхтаваў сваю армію на 1943 г. Перш за ўсё не меў ён вышэйшых рангам афіцэраў. Усіх знішчыў у 1937-1938 гадах. Толькі што пачыналася прадукцыя танкаў і самалётаў новай генерацыі, якія змаглі б супрацьставіцца нямецкай тэхніцы. Аднак восенню 1939 г. дэманстравалася супольнасць інтарэсаў Нямеччыны і Савецкага Саюза.

17 верасня Чырвоная Армія перасякла межы Польшчы і заняла тэрыторыю, узгодненую падчас тайных перагавораў з немцамі. Неўзабаве адбылося фармальнае далучэнне занятых зямель да Савецкай Беларусі і Украіны. У межах Беларусі апынулася таксама Ломжынская зямля, дзе зусім не было беларусаў. Гэты факт па-рознаму ацэньваўся беларусамі, але ў асноўным не было палітычных груповак, пратэстуючых су-

[працяг ☞ 4]




*Абмежаванне хуткасці цягнікоў адштурхне патэнцыяльных кліентаў.* Фота з архіва

# Безвыніковая сустрэча

Уладзімір СІДАРУК

**З пачаткам чэрвеня (а дакладна кажучы з увядзеннем новага раскладу язды 30 мая г.г.) на чыгуначнай лініі Чаромха-Беласток была абмежавана хуткасць цягнікоў да 30 км у гадзіну. Некаторыя прадвяшчаюць незадоўгае спыненне руху цягнікоў на гэтым маршруце. Чыгуначныя чыноўнікі тлумачаць гэта неабходнасцю капітальнага рамонту лініі, якога кошт ацэньваецца на 70-80 мільёнаў злотых.**

Пра чыгуначную лінію Чаромха-Беласток шмат пісалі беластоцкія сродкі масавай інфармацыі. Ды і я, як чыгуначнік, ставіў гэтую праблему на старонках „Нівы”. Зараз хачу яшчэ раз вярнуцца да гэтай справы, паколькі мне сталі вядомымі пэўныя факты.

**Закрыюць ці не закрыюць?**

Такое пытанне ставяць многія чыгуначнікі пачаўшы ад Чаромхі па Беласток. Ды не толькі. Гэтая праблема хвалюе вучняў, даязджаючых у школы і рабочых — на работу. Справа гэтая хвалюе сялян прылеглых да чыгуначнай лініі мясцовасцей.

Адзін з кіраўнікоў поезда прадвяшчаў, што спыненне руху цягнікоў на гэтай лініі наступіць з пачаткам верасня г.г. Іншыя прадвяшчаюць яе існаванне яшчэ да канца гэтага года. А калі сапраўды надыдзе канец, толькі Усявышняму, пэўна, вядома.

**Факты гавораць**

Едучы аднойчы цягніком я пачуў такую гаворку: „Чаромхаўскі войт не цікавіцца справай. Кляшчэлеўскі бургмістр абяцаў нейкія грошы на рамонт лініі. Нават у Бельску ўлады абяцалі адвесці адпаведныя датацыі. Ды толькі ў Чаромхаўскай гміне не хапае грошай для гэтай мэты”. Калі пра пачутае сказаў я кіраўніку чаромхаўскага самаўрада, войт усхвалявана сказаў:

— Гэта хлусня! Звычайная выдумка. Мне добра вядома чыіх гэта рук справа...

І зараз жа папрасіў у сакратара Гмінай управы: „Прынясіце мне, калі ласка, дакумент...”

А ў ім быў пратакол з пасяджэння, якое адбылося 16 красавіка 1999 года ў Чаромсе ў справе абмежавання хуткасці цягнікоў да 30 км/гадз. У ім удзельнічала дваццаць асоб, сярод якіх былі пасол Сейма Рэчы Паспалітай і адначасова старшыня беластоцкай „Салідарнасці” Юзэф Мазалеўскі, прадстаўнік Сейміка падляшскага Юзэф Рэмжык, намеснік ваяводы Лешак Левац, намеснік дырэктара Акруговай чыгуначнай інфраструктуры ў Варшаве Кшыштаф Гроблеўскі, прадстаўнікі беластоцкіх чыгуначных службаў як і прафсаюзных арганізацый з круга „Салідарнасці”. Асноўнай мэтай збору такой прадстаўнічай аўдыторыі, як сказаў ініцыятар гэтай сустрэчы, дзеяч беластоцкай „Салідарнасці” Мікалай Чаркаскі, было прадухіленне абмежавання хуткасці цягнікоў на чыгуначнай лініі Чаромха-Беласток.

— Такая сітуацыя адштурхне ад чыгункі патэнцыяльных кліентаў, — аргументаваў спадар Чаркаскі. — Лінія сапраўды стане нерэнтабельнай. Абмежаванне хуткасці цягнікоў да 30 км у гадзіну адмоўна паўплывае на лік моладзі, даязджачай у бельскія школы і рабочых на работу.

— Лінія Чаромха-Беласток раманта-

[працяг ☞ 3]

## Гора горкае

Беларускай грашовай сістэме неабходна дэвальвацыя. Нацыянальны банк не можа весці самастойную манетарную палітыку. Рашэннямі ўрада і прэзідэнта праводзяцца крэдытныя эмісіі і гэта вядзе да ўзмацнення эфекта „танных грошай”. У 1995 годзе залатавалютныя рэзервы састаўлялі каля 400 млн. дол. ЗША. Сёння іх няма. Усё пайшло на падтрымку курса беларускага рубля.

[*эканоміка* ☞ 2]

## Нарваўскія праблемы

З Ачышчальні сцёкаў „Чайка” ў Варшаве прывезены былі асадкавыя рэчывы на прыватнае поле паміж Нарвай і Тыневічамі. Пасля пратэстаў жыхароў Тыневічаў зямля з гэтым угнаеннем даследуецца ў Ваяводскім інспектарацые аховы асяроддзя. Войт Якуб Садоўскі заклікаў гаспадароў, каб не карысталіся такімі ўгнаеннямі

[*экалогія* ☞ 3]

## Краявід пасля бою

І так вось наша любімае і жаданае НАТО выратавала Косава ад этнічнай чысткі. Пры нагодзе выклікала іншую, толькі больш удачную і больш радыкальную. Праз некалькі дзён не будзе ўжо сербаў на іх роднай і гістарычнай зямлі. Уцякаюць таксама цыганы і чарнагорцы. „Партызаны” УЦК, якіх Збігнеў Бжазінскі так моцна хацеў даўзброіць, а цудоўнае НАТО не ўмее раззброіць, паляць сербскія дамы і цэрквы, здзяйсняюць злачынныя лінчы і расправы.

[*палітыка* ☞ 4]

## У мяне ёсць рэспубліка колеру

Зразумела, найбольш мяне захапляе колер. Калі б не колеры, то свет быў бы шэры. Валоданне колерам, забава з ім пры тым адчужэнні, вакууме, якія я адчуваю ў гэтай краіне — дае мне магчымасць стварыць уласную рэспубліку, у якую ніхто не мае права ўварвацца.

[*інтэрв'ю з Лявонам Тарасэвічам* ☞ 5]

## Па слядах мінулага

Пасля скончэння роду Гаштольдаў, якія 110 гадоў уладарылі Тыкоцінам, горад перайшоў ва ўладанне караля Зыгмунта Аўгуста, які пачаў аднаўляць замак. У XVI стагоддзі горад развіваецца ўздоўж ракі Нарвы. На ўсходзе ўзнік квартал — *Новае Места* з асобным рынкам і Свята-Мікалаеўскай царквою, якая існавала раней 1559 года.

[*гісторыя* ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Рабочыя рыхтуюцца да акцыі

**У сувязі са склаўшайся надзвычайнай сітуацыяй па выплаце заработнай платы на прадпрыемствах аўтамабільнага, трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, на чарговым пасяджэнні Савета прафсаюзаў аўтасельгасмаша было прынята рашэнне аб правядзенні ў верасні масавых акцый пратэсту працоўных.**

У заяўленні, прынятым Саветам прафсаюзаў АСМ, адзначаецца, што ў апошнія месяцы гэтага года „большасць прадпрыемстваў галіны працуюць з няпоўнай загрузкай — у рэжыме скарочанага тыдня або прыпыняюць вытворчасць". На складах накапілася вялікая колькасць гатовай прадукцыі. Толькі на Мінскім трактарным заводзе нерэалізаванымі застаюцца каля 5 тысяч трактароў. Няўпраўка наглядаецца таксама на маторным заводзе і іншых прадпрыемствах, якія працуюць на канвеер МТЗ. Рэальная заработная плата „на большасці прадпрыемстваў знізілася на 7-10%, зрываюцца тэрміны выплаты зарплаты, устаноўленыя калектыўнымі дагаворамі і тарыфнай дамовай, расце задоўжанасць па зарплаце". Напрыклад, на Гомельскім заводзе пускавых рухавікоў, Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў зарплата не выплачваецца ўжо на працягу двух месяцаў. Захоўваецца працяглая задоўжанасць па зарплаце на мінскіх трактарным і маторным заводах. Многія прадпрыемствы выплачваюць толькі пражытачны мінімум, затрымоўваюцца адпускныя.

У сувязі з тым, Савет прафсаюзаў АСМ заявіў, што „склаўшаеся становішча — паслядоўнасць памылак і пралікаў, дапушчаных кіраўніцтвам і ўрадам краіны ў эканоміцы". Галіновы прафсаюз, як сказана ў заяве, „неаднойчы напамінаў аб гэтым на розных узроўнях". Але ўрад „не лічыцца з працоўнымі і прафсаюзамі". Без адказу засталася, паводле лідэраў прафсаюзаў, рэзалюцыя з патрабаваннямі па стабілізацыі работы, павышэнні фінансавай устойлівасці прадпрыемстваў і павелічэнні заработнай платы рабочых, прынятая на сходзе прадстаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў 15 лютага гэтага года. „У той жа час на прадпрыемствах праходзяць стыхійныя, масавыя выступленні рабочых, якія не атрымалі зарплату. Савет прафсаюзаў АСМ падтрымоўвае іх барацьбу за свае правы і будзе рабіць усё магчымае, каб прымусіць урад і адміністрацыю прадпрыемстваў выплачваць зарплату своечасова". Як заявіў старшыня парфсаюзаў аўтасельгасмаша Аляксандр Бухвостаў, „мы не толькі будзем падтрымоўваць, але і будзем рэкамендаваць не выходзіць на работу да гэтай пары, пакуль задоўжанасць па зарплаце не будзе ліквідавана". Адяксандр Бухвостаў мяркуе яшчэ, што прыняцце прэзідэнтам указа аб дадатковых мерах па ўмацаванні працоўнай дысцыпліны накіравана на тое, каб „нейтралізаваць, шляхам заключэння кантрактаў, тых актыўных рабочых, хто яшчэ можа змагацца за свае правы". Сёння, паводле прафсаюзнага лідэра, створана такая сістэма падатковага і мытнага заканадаўства, якая не дазваляе прадпрыемствам працаваць паўнацэнна. Многія кіраўнікі прадпрыемстваў, лічыць Аляксандр Бухвостаў, проста запалоханы — яны не ў змозе самастойна прымаць рашэнні.

Для прыцягнення ўвагі ўрада і грамадскасці да праблемаў прадпрыемстваў аўтасельгасмаша Савет прафсаюзаў АСМ заявіў, што ў верасні гэтага года ў Мінску будуць праведзены акцыі пратэсту — мітынгі, шэсці рабочых, у сувязі з чым накіраваны адпаведныя дакументы ў Мінгарвыканкам. Па словах Аляксандра Бухвостава, першыя мітынгі, як мяркуецца, адбудуцца ў Заводскім раёне Мінска 16 і 23 верасня. Як лічыць лідэр прафсаюзаў АСМ, на першы мітынг збярэцца каля 5 тысяч працоўных, на другі — 15 тысяч.

**Анатоль Нязванаў**
*Белорусская деловая газета № 630, 26.08.1999 г.*

## Пратэст пасольства РБ

Пасольства Беларусі ў Польшчы выказала пратэст супраць дзеянняў улад Польшчы ў адносінах да групы беларускіх грамадзян.

20 жніўня падчас праверкі дакументаў на адным з рэчавых рынкаў Варшавы супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі каля 300 чалавек, у тым ліку 25 грамадзян Беларусі. Яны абвінавачваюцца ў прабыванні на тэрыторыі Польшчы без неабходных грашовых сродкаў і нелегальнай гандлі. Польскія ўлады дэпартавалі затрыманых беларусаў ноччу з 22 на 23 жніўня. Толькі потым стала вядома, што яны падвяргаліся здзекліваму стаўленню з боку польскіх праваахоўных органаў.

У сувязі з гэтым пасольства Беларусі ў Польшчы патрабавала правесці аб'ектыўнае расследаванне акалічнасцей здарэння і прыняць адпаведныя меры ў адносінах да асоб, якія парушылі законныя правы і інтарэсы грамадзян. Беларускі бок настойвае таксама на кампенсацыі нанесенага матэрыяльнага і маральнага ўрону.

Як паведамляе агенцтва БелаПАН са спасылкай на загадваючага консульскім аддзелам беларускага пасольства ў Варшаве Аляксея Дымбіцкага, 23 жніўня ў будынку пасольства адбылася прэсканферэнцыя для мясцовых сродкаў масавай інфармацыі, на якой былі прадстаўлены дэталі здарэння і зроблена заява аб тым, што польская паліцыя прыняла ў адносінах да беларускіх грамадзян меры, несузмерныя з учыненымі імі правапарушэннямі.

*www.open.by, 25.08.1999*

Нашаму гродзенскаму карэспандэнту
Зміцеру КІСЯЛЮ
словы шчырага спачування з прычыны напаткаўшага Яго гора — смерці Бацькі
— выказвае рэдакцыйны калектыў „Нівы".

# Гора горкае

**Аб тым, у якім становішчы знаходзіцца цяпер эканоміка Беларусі, карэспандэнту „Власти" Алесю Мякіне расказаў беларускі эканаміст Леанід ЗАІКА, які ўдзельнічае ў распрацоўцы праграмы грашова-крэдытнай палітыкі Беларусі.**

***— Як у першым паўгоддзі адчувае сябе эканоміка Беларусі?***

— У пачатку гэтага года эканамічны рост у Беларусі скончыўся. У першай палове 1998 года прырост валавога прамадскага прадукту (ВГП) дасягнуў 12%, цяпер — каля двух. Рост прамысловай вытворчасці склаў 4-5%. Гэтая няўстойлівая раўнавага можа змяніцца ў любы бок. Праўдападобна за 4-6 месяцаў адбудзецца падзенне ВГП — у сувязі са змяншэннем аб'ёму імпарту.

***— А чаму спыніўся рост?***

— Беларусь прайшла лагічны цыкл з эканамічным уздымам у 1996-1997 гадах, пераломнай раўнавагай у 1998-м і спадам у гэтым годзе. Кароткачасовы разагрэў эканомікі выкліканы быў павелічэннем экспарту і эмісійным напампоўваннем. Вось другі бок медаля беларускага прамысловага „цуду" — мы „раскручваем" слабатэхналагічную і матэрыялаёмістую вытворчасць, атрымоўваючы 96% усіх матэрыялаў са знешніх рынкаў. Таму заканамерна, што імпарт расце, а прыбаўленая вартасць у многіх галінах становіцца адмоўнай.

***— Ці гэта праўда, што і золатавалютны запас Беларусі складае цяпер адмоўную велічыню?***

— Беларускай грашовай сістэме неабходна дэвальвацыя. Нацыянальны банк не можа весці самастойную манетарную палітыку. Рашэннямі ўрада і прэзідэнта праводзяцца крэдытныя эмісіі і гэта вядзе да ўзмацнення эфекта „танных грошай". У 1995 годзе золатавалютныя рэзервы састаўлялі каля 400 млн. дол. ЗША. Сёння іх няма. Усё пайшло на падтрымку курса беларускага рубля.

Старшыня Нацбанка Беларусі прапануе павялічыць долю абавязковага продажу валютнай выручкі прадпрыемстваў з 30 да 40% і абяцае, што ўжо да канца года Нацбанк створыць рэзервы ў 500 млн. дол. і адновіць інтэрвенцыі на біржы. Ён таксама намерваецца аб'яднаць шматлікія курсы беларускага рубля да канца года. Але гэта не першае такое абяцанне, таму абмяркоўваць яго да прыняцця праграмы грашова-крэдытнай сістэмы палітыкі прэзідэнтам Беларусі няма сэнсу.

***— А што з банкаўскай сістэмай?***

— Увесь капітал беларускіх банкаў не перавышае 200 млн. дол., што раўняецца актывам сярэдняга расійскага банка. Пры гэтым у Беларусі не відаць накаплення банкаўскага капіталу. У 1998 годзе грашовая маса вырасла ўдвая, што абазначае хранічную нестабільнасць беларускага рубля. Банкі працуюць ва ўмовах адмоўнай працэнтнай стаўкі. Насельніцтва пры размяшчэнні ашчаднасцей у дзяржаўных і іншых банках траціць іх. Апрача таго беларускія банкі абавязаны выдаваць стратныя крэдыты пад будаўніцтва (5% гадавых) і для сельскай гаспадаркі — пры інфляцыі 280% гадавых. Натуральна, банкі заўсёды будуць праблемнымі, калі яны не будуць працаваць у нармальных умовах.

***— Што сёння прадстаўляе сабой эканоміка Беларусі? Як растлумачыць расіянам, з чым яны будуць мець дачыненне?***

— Тое, што адбываецца ў Беларусі, — гэта тое, што будзе ў Расіі, калі да ўлады прыйдуць Зюганаў, камуністы і левыя. Так, гэта больш сацыяльна справядлівая эканоміка. Тут таннае жыллё і сацыяльна важныя тавары. Насельніцтва прытрымоўваецца стэрэатыпаў сацыяльнай роўнасці. Але пад гэта ў Беларусі няма рэсурсаў. У выніку адбываецца збядненне насельніцтва. Сярэдняя сям'я ў 1997 годзе траціла ў месяц 67 дол. на прадукты харчавання, а цяпер яна зарабляе 60 дол. Гэта задавальняе бедных неініцыятыўных людзей, пенсіянераў. Аб будучым пры такіх сістэмах гарантый не думаюць, большасць электарату баіцца, каб не было горш.

Мы проста вяртаемся да паўсацыялістычнага грамадства, дзе тавары будуць прадавацца па сацыяльных цэнах. Напрыклад, 30% хлеба ў Салігорску прадаецца па цэнах удвая ніжэйшых, чым астатні хлеб. Бабулі хмарамі кідаюцца на „сацыяльны" хлеб, а астатнія здзіўляюцца: чаму такая розніца ў цэнах?

Двухтрэкавая эканоміка рэальна існуе і ў адносінах да бензіну і дызельнага паліва. Гэта было дапушчальнае ў 1991-1992 гадах, але напярэдані 2000 года гэта абазначае, што кіраўніцтва краіны баіцца будучыні і жыве ў каардынатах мінулага.

*Коммерсантъ-Власть, № 27 (328), 13 ліпеня 1999 г.*

## Доўг Беларусі за расійскі газ

Запазычанасць Беларусі за пастаўлены з Расіі прыродны газ на пачатак жніўня 1999 года дасягнула 285 млн. долараў ЗША. Адна з асноўных прычын узнікнення доўгу — няпоўная аплата беларускімі суб'ектамі гаспадарання ўжытага газу. Не выключана, што ў выпадку, калі Беларусь не прадпрыме тэрміновыя захады па выплаце гэтай запазычанасці, пастаўшчык прыроднага газу Расійскае акцыянернае таварыства „Газпрам" можа скараціць пастаўкі „блакітнага паліва" ў рэспубліку. Ураду пастаўленая задача дабіцца ад беларускіх спажыўцоў 100-працэнтнай аплаты кошту выкарыстанага імі газу. Міністэрства фінансаў Беларусі ўзгадняе з Мінфінам Расійскай Федэрацыі пытанні, звязаныя з пастаўкамі беларускіх матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў у Расію ў кошт разлікаў за атрыманы прыродны газ; асновай для такіх перамоваў з'яўляецца заключанае ў кастрычніку 1998 года міжурадавае пагадненне.

*Радыё 101,2, 26.08.1999 г.*

## Чыноўнікі вывучаюць мову

Газета „Звязда" паведаміла, што ўсе супрацоўнікі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь закончылі курсы беларускай мовы.

— Перш за ўсё неабходнасць у гэтым мелі спецыялісты-рэдактары, якія займаюцца падрыхтоўкай пастаноў і іншых рашэнняў Савета Міністраў, — сказаў журналісту газеты намеснік начальніка ўпраўлення па справаводстве Саўміна Вячаслаў Пагірніцкі. Уся дакументацыя, як заявіў В. Пагірніцкі, у абавязковым парадку публікуецца на дзвюх мовах. Але ў цяперашні момант справа ідзе аб прапарцыянальным прыняцці прававых актаў на рускай і беларускай мовах.

*www.open.by, 26.08.1999*

# Нарваўскія праблемы

**Панарама гміны, будучыня школы ў Ласінцы і будучыя інвестыцыі — гэта тэмы, якія закрануліся ў час пасяджэння Гміннай рады ў Нарве 13 жніўня 1999 года.**

**Панарама гміны**

— Гміна наша бедная, распалажана на вялікай тэрыторыі, вёскі амаль пустыя і вельмі слаба разбудаваная інфраструктура. Сярод тых абшараў, якія выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы, палову састаўляюць землі V і VI класаў, якія даюць вельмі малы прыбытак, а падыходзяць толькі да лесанасаджэнняў, — сказаў у час пасяджэння войт гміны **Якуб Садоўскі.**

У гміне Нарва, якая раскінулася на абшары 242 квадратных кіламетраў, жыве каля 5 тысяч чалавек, з чаго 1,5 тысячы ў самой Нарве. Каля 80 км² займае лес, а каля 30 км² — тэрыторыя каля ракі Нарвы, непрыдатная для сельскай гаспадаркі.

— Нават калі б людзі праз некалькі пакаленняў дакладалі грошы на інфраструктуру, ніколі самі яе не збудуюць. Трэба знайсці грошы на інвестыцыі ў бюджэце гміны і пакарыстацца дапамогай звонку, — сказаў войт, інфармуючы адначасна, што ў гэтым годзе гміна не атрымала сродкаў прадбачаных у „Кантракце для Белавежскай пушчы".

**Інвестыцыі**

— Чакаем, што ў бліжэйшыя чатыры гады атрымаем у сувязі з „Кантрактам для Белавежскай пушчы" каля 4,5 мільёна зл. на інывестыцыі, але другія 4,5 мільёна трэба знайсці самім, — тлумачыў войт. — Калі бюджэт гміны састаўляе 4,5 мільёна злотых, знайсці на працягу года 1,5 мільёна злотых на інвестыцыі, гэта задача невыканальная. Трэба будзе шукаць сродкі ў розных замежных фондах, якія будуць лічыцца як наш уласны ўклад. У ваколіцы Лапаў завязалася Таварыства гмін верхняй Нарвы і калі ўмовы іх будуць нам падыходзіць, можна будзе задумацца ці не ўвайсці ў састаў гэтага Таварыства, адкуль таксама можна будзе атрымліваць сродкі на развіццё.

Паколькі вада пастаўляецца толькі ў 40% вёсак, войт прапанаваў будаваць у будучым годзе водаправоды. Сёлета закончана была будова гравійных дарог у Даратынку і Агародніку, рамантаваліся дарогі ў Прыбудках, Кутавой, Козліках, Нарве і Трасцянцы, мадэрнізавалася асвятленне і перабудоўваўся парк у Нарве, парадкавана была рэкрэацыйная тэрыторыя за Нарвай і ідзе мадэрнізацыя стадыёна.

**Школа ў Ласінцы**

У час пасяджэння Рады разглядалася прапанова бацькоў вучняў з Ласінкі, каб перанесці навучанне са старых драўляных будынкаў у пустыя памяшканні Асяродка здароўя ў Ласінцы. Апрача сродкаў з Камітэта пабудовы школы ў Ласінцы, які раней змагаўся за пабудову новага будынка, на прыстасаванне памяшкання асяродка здароўя на патрэбы школы неабходныя былі б яшчэ сродкі з бюджэту гміны. Пяць радных з Камісіі асветы станоўча паставіліся да прапановы ласінкаўскіх бацькоў. Свайго здзіўлення не скрывалі радныя, якія галасавалі за перанясенне школы ў новы будынак, паколькі ідэю гэтую падтрымалі толькі 4 асобы, а ажно 10 радных галасавалі супраць. Некаторыя радныя звярталі ўвагу на тое, што ў Ласінцы будзе вучыцца зараз толькі 56 вучняў, а ў 2004 годзе не будзе кандыдатаў у дашкольны клас і таму неабгрунтаваным з'яўляецца выдатканне сродкаў на згаданую інвестыцыю. Лекар Стэфан Кучыньскі інфармаваў, што неабходнае дадатковае выкарыстанне велізарнага будынка Асяродка здароўя, дзе ў час зімы нармальна ацяпляецца толькі некалькі памяшканняў, а ўсе іншыя разбураюцца. Тлумачыў, што цяжка будзе ўтрымаць будынак, калі стане ён уласнасцю гміны, а школьнае яго выкарыстанне вырашыла б фінансавую праблему. Радны Ян Грынявіцкі заклікаў, каб не пералічваць усяго на грошы, а падумаць, як 6- або 7-гадовае дзіця будзе даязджаць, паколькі ўмовы навучання ў Ласінцы вельмі дрэнныя. Сказаў ён, што справа школы ў Ласінцы яшчэ не закрытая, што зацікаўленыя радныя і бацькі надалей будуць змагацца палепшыць умовы навучання ў ласінкаўскай школе.

**Надзённыя справы**

Многа месца радныя адвялі дыскусіі наконт будучыні футбольнага клуба „Іскра", які з-за фінансавых складанасцей з IV лігі перанесены быў у акругову групу „Б" і патрабаваў фінансавай дапамогі з гміннага бюджэту. Радны Міраслаў Граматовіч, заадно член управы клуба, інфармаваў, што сродкаў ад галоўнага спонсара, прадпрыемства „Пронар" не хапае на трэніроўкі і футбольныя выступленні. Звярнуў ён увагу, што ў клубе „Іскра" выступаюць зараз у галоўным хлопцы з Нарвы і работнікі „Пронару", які абяцаў фінансаваць трэнера. Радны прапанаваў падтрымку з гміннага бюджэту размерам у 5 тыс. зл., якая і была прынята Радай. Зацверджаны былі невялікія змены ў бюджэце, звязаныя з бягучымі інвестыцыямі і прыняты былі новыя статуты Асяродка культуры і Гміннай бібліятэкі, якія прадбачваюць, што гэтымі ўстановамі можа кіраваць адна асоба. Дзеля ашчаднасці, інфармаваў войт, няштатным дырэктарам Асяродка культуры будзе штатны дырэктар Бібліятэкі ў Нарве. Прыняты быў таксама статут Публічнай гімназіі ў Нарве і прышкольнага комплексу, які ахопіць навучаннем вучняў ад дашкольнага па шосты клас.

У час дыскусіі разглядалася справа асадкавых рэчываў, якія з Ачышчальні сцёкаў „Чайка" ў Варшаве прывезены былі на прыватнае поле паміж Нарвай і Тыневічамі. Пасля пратэстаў жыхароў Тыневічаў зямля з тым угнаеннем даследуецца ў Ваяводскім інспектараце аховы асяроддзя. Войт Якуб Садоўскі інфармаваў, што забарона можа быць зроблена гміннымі ўладамі толькі тады, калі выявіцца, што асадкі змяшчаюць небяспечныя для асяроддзя рэчывы і заклікаў адначасна іншых гаспадароў, каб не карысталіся такімі ўгнаеннямі.

**Аляксей Мароз**

# Безвыніковая сустрэча

[**1** ☞ *праця*г]

валася 28 гадоў таму, — заявіў дырэктар Кшыштаф Гроблеўскі, — і зараз патрабуе капітальнага рамонту, якога кошт складзе 70-80 мільёнаў злотых. Патрэба зрабіць падсыпку шчэбеню, памяняць 30 тысяч шпалаў. А ў гэтым годзе Бельская дарожная служба атрымала ўсяго 1000 шпалаў. На больш не хапіла грошай. Кожнаму пэўна вядома, у якой сітуацыі апынулася дзяржаўная чыгунка.

Затым голас узяў пасол Сейма Юзэф Мазалеўскі:

— З'яўляюся членам Сеймавай транспартнай камісіі, буду зараз намагацца дапамагчы ў рамонце лініі Чаромха-Беласток і заадно задбаю, каб знайшліся на гэта сродкі ў праекце бюджэту на наступны год, а калі не, дык на 2001 год. Здзіўляе мяне факт, што гэтая справа не знайшла месца ў сёлетнім бюджэце. Хтосьці тут пэўна правініўся.

У адказ на гэты закід дырэктар Гроблеўскі сказаў:

— Наш сектар выступаў з прапановай, але яна была адкінута. Чаму такое здарылася, мне дагэтуль невядома.

Дырэктар Прадпрыемства перавозу пасажыраў у Беластоку Галіна Кужына заявіла:

— Паток падарожных на лініі Чаромха-Беласток складае штодзённа 1500 пасажыраў. Калі абмяжуецца хуткасць да 30 км/гадз., большая частка падарожных памяняе чыгунку на аўтамабільны транспарт. На такое нельга дазволіць. Можна ліквідаваць адгалінаванні ад асноўнай лініі, але галоўнай нельга кранаць, як і нельга дазволіць на абмежаванне хуткасці цягнікоў. Чыгунка з'яўляецца самым бяспечным відам транспарту.

У заканчэнні свайго выступлення спадарыня Кужына звярнулася з заклікам да самаўрадавых і ваяводскіх устаноў аб дапамозе дзяржаўнай чыгунцы ў рамонце лініі Чаромха-Беласток.

Зараз жа ўзяў голас дырэктар Чаромхаўскага шпалапрапітачнага завода Ян Найбук, які абавязаўся паставіць патрэбную колькасць шпалаў на рамонт вышэйзгаданай лініі. Адначасова запрапанаваў, каб за шпалы чыгуначныя ўлады заплацілі пасля аднаго года.

Гэтая прапанова не знайшла падтрымкі ў дырэктара Варшаўскай дырэкцыі інфраструктуры К. Гроблеўскага. Ён заявіў, што для рамонту патрэбны не драўляныя, а толькі бетонныя шпалы.

Даволі скептычна выказаўся войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі:

— Разумею трагічную сітуацыю ПКП. Але наша гміна не мае магчымасці датаваць рамонт лініі Чаромха-Беласток, паколькі апошнім часам адвяла яна са свайго гміннага бюджэту больш мільярда злотых на рамонт амбулаторыі мундзірных службаў.

Спадар Врублеўскі паставіў пытанне прадстаўнікам дзяржаўнай чыгункі: чаму ніхто дагэтуль не выступіў з прапановай да самаўрадавых арганізацый, каб прызначылі яны нейкія датацыі на рамонт лініі Чаромха-Беласток? Шэсць гадоў ужо ніхто на чыгунцы не клапоціцца, каб перадаць непрыдатную чыгунцы зямлю да гмін. Гэта ў вялікай ступені паўплывала б на фінансавую кандыцыю прадпрыемства.

Даволі бурлівую дыскусію завяршыла выступленне падляшскага віцэ-ваяводы Лешка Леваца, які сказаў наступнае:

— Такія сустрэчы павінны часцей адбывацца. У вышэйзгаданай справе мы павінны былі сустрэцца ў мінулым годзе. Паколькі зараз праводзяцца размовы на тэму будучага бюджэту, праблему рамонту чыгуначнай лініі Чаромха-Беласток прадстаўлю самаўрадавым і цэнтральным уладам.

Столькі фактаў.

**А якая рэчаіснасць?**

Сумная! Цягнікі з Чаромхі ў Беласток і назад ад трох месяцаў цягнуцца як чарапахі. Каб з'ездзіць у сталіцу ваяводства, пасажыру з Чаромхі трэба страціць амаль тры гадзіны. І хаця ад пасяджэння ў Чаромсе мінула больш за чатыры месяцы, ніхто з удзельнікаў сустрэчы дагэтуль не варухнуў пальцам у справе чыгуначнай лініі Чаромха-Беласток. Бо і каму баліць галава зараз за грамадскія справы. А тым больш калі яны тычацца ўсходняй Беласточчыны і... Чаромхі.

Пэўна не тым, хто сядзіць у мяккіх крэслах на высокіх пасадах.

**Уладзімір Сідарук**

PS. Няхай доказам гэтаму будзе той факт, што калі М. Чаркаскі прапанаваў саставіць дакумент з канкрэтнымі прапановамі, не знайшоў падтрымкі ў прысутных. Толькі інтуіцыя яму падказала зрабіць сабе з гэтай сустрэчы на памяць пратакол, дзякуючы якому вядомы нам сталі выказванні ўдзельнікаў аўтарытэтнай, але безвыніковай сустрэчы.

**У. С.**

# Арлянскае кабарэ

X сесія Рады гміны ў Орлі адбылася 30 ліпеня і хаця цягнулася 4 гадзіны, прайшла ў атмасферы татальнага балагану. А прыглядаліся гэтаму спектаклю некампетэнтнасці запрошаныя на пасяджэнне павятовыя радныя і солтысы.

Спачатку выявілася, што напярэдадні сесіі не былі яшчэ гатовыя пратаколы з папярэдніх двух пасяджэнняў, а радныя, якія хацелі з імі пазнаёміцца, маглі пабачыць толькі чарнавікі. Аднак на сесіі большасць радных не пацікавілася зместам пратаколаў і выказалася за іх прыняццё без адчытвання.

Пасля радны Мікалай Рэнгайла прапанаваў увесці ў павестку дня справаздачу з дзейнасці Управы гміны ў перыядзе паміж сесіямі Рады. Войт прынёс тады пратаколы і стаў іх чытаць. Дваццацімінутнае маруднае чытанне пакінула непрыемны асадак. Затым разглядалася функцыянаванне аховы здароўя ў гміне, што выклікала многа супярэчлівых меркаванняў. У выніку ніхто не зразумеў, якім будзе медыцынскае абслугоўванне насельніцтва гміны.

Радныя ўрэшце (за трэцім падыходам) прынялі пастанову аб аб'яўленні конкурсу на пасаду дырэктара школы ў Малінніках, каб не дапусціць да конкурсу цяперашняга дырэктара, увялі ўзроставы цэнз — кандыдат не можа мець больш чым 55 гадоў жыцця.

Чарговай справай была будова дарог. У гміне Орля 57% дарог маюць асфальтавае палатно, калі ў павеце толькі 37%. „У такой сітуацыі атрымаць гміне Орлі дадатковыя сродкі з павятовага бюджэту на мадэрнізацыю дарог будзе цяжка", — сказаў павятовы радны Юзэф Бжана. Некаторыя радныя абвінавацілі войта ў тым, што ў мінулым надта многа грошай накіраваў на будову дарог, запусціўшы іншыя дзялянкі грамадскага жыцця. Напрыклад, нічога ў гміне не робіцца дзеля скарачэння ліку беспрацоўных.

Адзін з радных хацеў ведаць, колькі грошай войт прызначыў на народны фэст, які адбыўся 27 чэрвеня, але войт не адказаў на гэтае пытанне. Іншы радны хацеў даведацца, чаму войт не хадайнічае аб датацыю на агароджу вакол сінагогі, аб атрыманне „гімбуса" для давозу дзяцей у гімназію, чаму гміна не выконвае загадаў кантрольных інстанцый і г.д. У зале падняўся вэрхал як на базары. Частка радных выйшла ў касу ўзяць 150 зл. камандзіровачных і на пасяджэнне ўжо не вярнулася. Залу пасяджэнняў пакінуў таксама войт гміны. І калі на канец старшыня Рады даў голас павятоваму радному Мікалаю Кадлубоўскаму, той усхвалявальны заўважыў, што ў зале засталося ўсяго некалькі радных. „Гэта прыніжаючае, каб змарнаваць столькі часу і не мець магчымасці расказаць радным, што станоўчага дзеецца ў іншых гмінах. А вы тут сварыцеся, кідаецеся на сябе як сабачкі. Сорам, што ў Орлі такі балаган", — абагульніў пасяджэнне павятовы радны і заадно жыхар Рыгораўцаў.

**Міхал Мінцэвіч**

# Краявід пасля бою



Фота „Палітыка"

І так вось наша любімае і жаданае НАТО выратавала Косава ад этнічнай чысткі. Пры нагодзе выклікала іншую, толькі больш удачную і больш радыкальную. Праз некалькі дзён не будзе ўжо сербаў на іх роднай і гістарычнай зямлі. Уцякаюць таксама цыганы і чарнагорцы. „Партызаны" УЦК, якіх Збігнеў Бжазінскі так моцна хацеў даўзброіць, а цудоўнае НАТО не ўмее раззброіць, паляць сербскія дамы і цэрквы, здзяйсняюць злачынныя лінчы і расправы. Сілы КФОР не ўмеюць прадухіліць гэтага. Здаецца дзіўным, што цяпер у Прышціне адзін узброены салдат КФОР (не ўлічваючы інтэнданцкага і бронетанкавага забеспячэння) прыходзіцца на дзесяць жыхароў, улічваючы немаўлят і паралізаваных старэчаў. Але што ж ён можа — бедалага. Зрэшты, тады, калі злачынствы ўчынялі быццам бы (пішу быццам бы, бо няма яшчэ афіцыйных даных следчых камісій) сербскія міліцы, вінаватага неадкладна паказвалі пальцам і клеймавалі. Цяпер сербаў забіваюць „невядомыя злачынцы" і сілы КФОР іншы раз не ўмеюць пасведчыць гэтыя асобы. Калі ў Грачку над чатырнаццаццю сербамі ўчынена была крывавая расправа, пан Арбен Ксаферы — самазваны правадыр албанцаў у Македоніі, заяўляе пану Давіду Варшаўскаму з „Газеты выбарчай", што „з усёй упэўненасцю не зрабіла гэтага УЦК". І рэдактар Давід Варшаўскі са здзіўляючай лёгкасцю каўтае пілюлю. Не ставіць чарговых пытанняў, няма каментарыя з сумненнем. Учынкі быццам бы гэтыя ж, а рэакцыі — ах як жа розныя. Хочацца запытаць: чаму?

Для міністра замежных спраў Браніслава Герэмка акцыя НАТО ў Югаславіі — гэта перамога. Тое, што дзеецца ў Косаве сёння, не падыходзіць да агульнай дактрыны, якую фармулюе міністр з няўмольнай шчырасцю: „Правы чалавека павінны стаяць вышэй за права на суверэнітэт народаў, што мусіць быць занесенае ў Карту ААН". Прасталюдзін, мабыць, запытае: „А якія правы маюць сербы і цыганы, якіх выганяюць з Косава?"

Я не прыдзіраўся б да пана міністра замежных спраў, бо міністр гэта ў канцы чыноўнік, але Браніслаў Герэмак з'яўляецца, аднак, таксама адным з самых вядомых польскіх гісторыкаў. Хай тады не прыкідваецца, што не ведае прынамсі двух асноўных спраў:

1. Што ў гэтым дзіўным закутку свету, якім з'яўляецца Усходняя Еўропа (і зрэшты не толькі тут), народы стагоддзямі змагаліся за суверэнітэт або самавызначэнне. І з'яўляюцца яны ім бясцэннай каштоўнасцю. Адам Міцкевіч (папярэднік Герэмка ў Калеж дэ Франс) маліўся за „вайну народаў" або за смерць і развалiны, каб толькі гэта дало Польшчы менавіта суверэнітэт. Можа быў ён нацыяналістычнай тупіцай, але народ раздзяляў яго погляды і да сённяшняга дня ставіць яму помнікі, ад кракаўскага рынка пачаўшы. Тое ж робяць эстонцы, літоўцы, латышы, славенцы, фіны... Як жа дзівачна дзеецца, што для іх гэты абстрактны суверэнітэт з'яўляецца такой вялікай вартасцю, што аддадуць за яго жыццё, што схіляюцца да дзесятак, сотняў столькі ж пафасных, што нават самагубных, узяць хаця б паўстанне 1830 года, у якім — дальбог — не ішло нікому пра чалавечыя і грамадзянскія правы мужыкоў.

2. „Правы чалавека" — і аб гэтым пан прафесар дасканала ведае — успрымаюцца па-рознаму, залежна ад часу, прасторы і абавязваючай ідэалогіі. Пан міністр зрабіў ласку і заявіў, што рэлятывізаванне гэтых правоў з'яўляецца памылкай. Аднак гэта не памылка, а толькі драматычны факт. Можа, я над гэтым не думаў дастаткова глыбока, хацелася б мне, каб Сонца кружыла вакол Зямлі. На жаль, з часоў Мікалая Каперніка ўсё дзеецца наадварот, а яшчэ горш — гэта можна даказаць. Таксама ў галіне правоў чалавека мне было б вельмі прыемна, калі б мусульмане, будысты, таісты і г.д. мелі ідэнтычныя з нашымі погляды на справу правоў жанчын, дэмакратыі, калектывізацыі... Аднак, зноў — на жаль, няма такога. Таму прынцып „абароны правоў чалавека" шляхам бамбардавання, нішчэння шматвяковых дасягненняў народаў гэта не што іншае, як навязванне бліжнім нашага разумення свету, нашых міязмаў і нашай узброенай волі. Можна, натуральна, прыняць канцэпцыю, што мы больш моцныя (а дзякуючы гэтаму больш маральныя), тады можам ударыць кулаком у стол. І верыць, што нажніцы не адазвуцца. Але гэта баязлівая ілюзія. Нажніцы адгукнуцца хаця б і на хвіліну нячутна. Але іх ціхі гук будзе раздражняць вушы і паволі-паволі сачыць у кроў нянавісць.

Тое, што здавалася б нам вырашэннем, акажацца пасевам канфлікту і вайны на будучыню. У мяне склалася горкае ўражанне, што ў імя абароны правоў адных, мы страшэнна пакрыўдзілі гэтых другіх. Гэтых другіх мы пакрылі раней маззю тэлевізійнай і агульнамедыяцыйнай агіды. Мы загадзя іх прыгаварылі і цяпер не мусім літавацца. Цяпер усё ў парадку. Але, на жаль, я з гэтым не магу згадзіцца. І гэта не дух супярэчлівасці, не апазіцыя і не шуканне іголкі ў стозе сена. Папросту, стаімо перад новай трагедыяй, на якую дзіўна застаемся глухімі і сляпымі.

Па палітычных прычынах, якія, дарэчы, магу зразумець, пасеяны былі ў Польшчы зярняты дзіўнага рэлятывізму. Дзе адна кроў менш вартая чым другая, дзе адно чалавечае жыццё значыць менш чым іншае. Не думаю, каб плён быў багаты. Але гэта брудная справа палітыкаў. Я звяртаюся да чытачоў з адным заклікам: паглядзіце, хто там каго забівае. Я вам так моцна давяраю, што не сумняваюся ў тым, што ўсё зразумееце.

**Людвік Стома**
*Палітыка № 33 (2206), 14 жніўня 1999 г.*

# Беларусь і пачатак II сусветнай вайны

[1 ☞ працяг]

праць акупацыі саветамі ўсяе Беларусі. Большасць беларускіх дзеячаў было левай арыентацыі і для іх такія палітычныя змены былі пажаданымі і доўгачаканымі. Нацыяналісты і дэмакраты, якія не сумняваліся ў тым, чым з'яўляецца сталінскі камунізм, уцякалі ў нямецкую зону ўплываў, але таксама не пратэставалі супраць аб'яднання адным з акупантаў усяе беларускае тэрыторыі. Думалі яны як падчас І сусветнай вайны польскія нацыяналісты з Раманам Дмоўскім, якія імкнуліся, каб усе землі, населеныя палякамі, аб'яднаць у рускай дзяржаве. Лічылі, што з адным акупантам лягчэй будзе справіцца, чым з двума ці трыма. Беларускія дзеячы, якія апынуліся ў Варшаве, Берліне, Празе рабілі стаўку на хуткую вайну Нямеччыны з Савецкім Саюзам і разлічвалі, што пры дапамозе гэтых апошніх узнікне магчымасць стварыць беларускую нацыянальную дзяржаву. Апрача існуючага польска-савецкага канфлікту інтарэсаў, нараджаліся яшчэ беларуска-польскі і беларуска-савецкі канфлікты. Палякі не адмаўляліся ад заходняй Беларусі, а саветы — ад усяе яе тэрыторыі. Вайна ўсіх з усімі ў Беларусі станавілася непазбежнай.

Большасць беларусаў уваход Чырвонай Арміі ў межы Польшчы прыняла станоўча. Як пісаў у лютым 1939 г. ксёндз Вінцук Гадлеўскі („Беларускі фронт", н-р 3) „Насельніцтва беларускае чакае якіх-нябудзь зменаў. (...) Галодныя, абдзёртыя, непісьменныя сяляне пойдуць за кожным, хто абяцае ім хлеб і больш зямлі, каб прадукаваць хлеб". Усё гэта абяцалі камуністы, таму і ўваход савецкай арміі ў верасні 1939 г. у многіх мясцовасцях сяляне віталі хлебам і соллю. Пасля двух гадоў бальшавіцкай улады ў некаторых мясцовасцях хлебам і соллю віталі таксама нямецкую армію.

Восенню 1939 года пачаўся новы перыяд у гісторыі Беларусі. Уся краіна апынулася ў межах Савецкага Саюза на правах быццам бы самастойнай дзяржавы. Перыяд гэты трываў даволі доўга, да 1991, да часу развалу Савецкага Саюза.

**Яўген Мірановіч**

# Знішчэнне мовы

***(працяг; пачатак у 31 н-ры)***

**6. „Збліжэнне" моваў**

Адной з ілюзій XIX ст. было сцвярджэнне аб зліцці народаў у адзіную агульначалавечую нацыю з усялюдскаю моваю. Увасабляць у жыццё гэтую ілюзію ўзялася Камуністычная партыя Савецкага Саюза.

Іосіф Сталін сказаў у 1950 г., што „мы будзем мець справу не з дзвюма мовамі, (...) а з сотнямі нацыянальных моваў, з якіх у выніку доўгага эканамічнага, палітычнага і культурнага супрацоўніцтва нацый будуць вылучацца спачатку найбольш узбагачаныя мовы, а потым занальныя мовы зліюцца ў адну супольную міжнародную мову, (...) якая (...) будзе мовай, што ўбярэ ў сябе найлепшыя элементы нацыянальных і занальных моў".

Такім чынам, згодна ўказанню Сталіна, адна з прадбачаных ім моваў павінна паўстаць у СССР. Цяжка не здагадацца, на аснове якой мовы мусіла паўстаць гэтая мова.

Яшчэ раней за выхад у свет працы Сталіна па пытаннях мовазнаўства, на пачатку 30-х гадоў камуністычная партыя пачала наступ на адметнасці беларускай мовы. Тады яшчэ не ўсім было зразумелым, што гэта пачалася праца па стварэнні адзінай „занальнай" мовы.

Ва ўступе да ўрадавага дэкрэта „Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу" ад 28 жніўня 1933 г. казалася, што „нацыянал-дэмакратызм (г.зн. нацыянальна арыентаваная плынь беларускай інтэлігенцыі — В. Г.) імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, ствараў штучны бар'ер паміж беларускімі і рускімі мовамі і засмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі".

Дэкрэт уводзіў „наркомаўскую" форму беларускай мовы згодна русіфікацыйным прынцыпам. Рэформаю і далейшаю камуністычнаю моўнаю палітыкаю мова механічна набліжалася да рускай мовы. Гэты працэс добра асвятліў выдатны беларускі мовавед Станіслаў Станкевіч у надрукаваным у 1962 г. за мяжою працы „Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу" (яна была перавыдадзена ў 1994 г. Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны).

Рэформа 1933 г. уводзіла ў нашу мову ля трыццаці фанетычных і марфалагічных асаблівасцей, чужых ёй. Паступова пачаў уводзіцца ў беларускую мову і рускі лексічны матэрыял. Суцэльна выкідаліся з мовы такія словы, як „асіміляцыя", „русіфікацыя", „дэнацыяналізацыя", якія напаміналі аб рэальнай пагрозе беларускаму этнасу і ягонай мове. У выніку кіравання ўжываннем словаў наша мова была зменшана да газетнага слоўніка, прыкладна так, як музыка да гімнаў, а жывапіс да плакатаў.

Пры дапамозе прыпадабнення беларускай мовы да рускай спрабавалі першую зрабіць бляклай копіяй другой. Копія ж заўсёды горшая за арыгінал. Арыгінал заўсёды быў да паслугаў, паколькі „я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин" (Маякоўскі).

„Зліццё" і „прыпадабненне" моваў прывяло да росквіту моўнай хімеры — „трасянкі". У ёй беларуская і руская мовы перамешаны не да пазнання.

З ходам часу пазычанае пачало ўспрымацца як сваё, а сваё выштурхоўвалася з мовы. ***(працяг будзе)***

**Валянцін Грыцкевіч**

# Літаратурна-мастацкая старонка (476)

## У мяне ёсць рэспубліка колеру

**З мастаком Лявонам ТАРАСЭВІЧАМ — лаўрэатам прэміі імя Яна Цыбіса за 1998 год, падчас адкрыцця выставы ў варшаўскім Доме мастака, прымеркаванай да ўрачыстасці ўручэння ўзнагароды, размаўляе Наталля Грышкевіч.**

***— Кім быў Ян Цыбіс і чаму яго творчасць так цэніцца ў польскім мастацтве?***

— Цыбіс быў польскім мастаком, хаця яго родны брат быў аўстрыйцам і нават не гаварыў па-польску. Ян Цыбіс належаў да адной з групаў, плыняў у польскім мастацтве, якая называлася КП альбо капісты. Прадстаўнікі гэтай групы выехалі ў 1925 годзе ў Парыж, пазней вярнуліся і ўвялі каларыстыку ў польскае мастацтва. Пасля вайны ён быў прафесарам Варшаўскай акадэміі мастацтваў з перапынкам на перыяд 1949-1955 гадоў, калі былі прадпрыняты спробы ўвесці соцрэалізм. Прафесар Тадэўш Дамінік быў вучнем Яна Цыбіса, а Дамінік у сваю чаргу з'яўляецца маім настаўнікам. Першую ўзнагароду імя Цыбіса атрымаў менавіта Дамінік у 1973 годзе. І з таго часу яна ўручаецца штогод. Цяпер мала хто малюе ў Польшчы, так што вялікага выбару няма — вось і ўручылі ўзнагароду мне.

***— Як можна ацаніць той стыль у мастацтве, прадстаўніком якога Ты з'яўляешся — цяпер гэта называецца авангард, а як, Тваім меркаваннем, ацэняць яго нашы нашчадкі?***

— А мяне гэта абсалютна не цікавіць — я працую, пакуль жыву, гэта маё жыццё.

***— Я бачу, што на гэтай выставе паявіўся новы матэрыял, якім Ты карыстаешся — вада...***

— Так, гэта нам прыйшло ў галаву ў апошні момант — крыху блакіту. На жаль, не атрымалася да канца так, як планаваў я гэты басейн — не хапіла фарбаў у магазінах.

***— А што гэта павінна быць — проста блакітная вада?***

— Так, проста блакітная вада. Уяві сабе, як гэта цудоўна: уваходзіш у падвал, а там усё блакітнае. Ці можа быць нешта больш цудоўнае?

***— Цяжка гаварыць некаму пра карціны, калі ён іх не бачыў. Калі б Табе прыйшлося выплумачыць, што галоўнае ў Тваёй творчасці — то Ты б назваў колер, лінію, сіметрыю ці нешта іншае?***

— Зразумела, найбольш мяне захапляе колер. Калі б не колеры, то свет быў бы шэры. Валоданне колерам, забава з ім пры тым адчужэнні, вакууме, якія я адчуваю ў гэтай краіне — дае мне магчымасць стварыць уласную рэспубліку, у якую ніхто не мае права ўваркацца. Лёня Вольскі мае сваю незалежную рэспубліку Мроя, а ў мяне ёсць мая рэспубліка колеру.

***— Пакуль што яшчэ Твае працы называюцца авангардам — гэта нешта новае, што цікавіць, здзіўляе, прымушвае задумацца. Але тут няма шырокага поля дзеяння; праз нейкі час Тваё мастацтва перастане быць наватарствам, не будзе ўжо авангардам. Ці тады зменіш свой стыль, ці застанешся яму верным?***

— Пра стыль зусім не думаеш — не зменіш думкі, не зменіш чалавека. Калі нехта сапраўдны мастак, то назаўсёды застанецца мастаком, незалежна ад таго, ці робіць гэта пальцам, ці вадой, ці фарбамі, ці нейкім іншым матэрыялам. Спосаб перадачы няважны, лічыцца толькі тое, што робіш, толькі інтэлект. Калі мая праца будзе дурной і нецікавай, то ніхто мяне не запросіць больш на выставу.

***— Ты выстаўляў свае працы ў многіх заходніх краінах і часам складваецца ўражанне, што на Захадзе яны карыстаюцца большай папулярнасцю, чым у Польшчы.***

— Не, гэта няпраўда. Выставіў я некалькі разоў на Захадзе — у Швецыі, Германіі... А ў нас існуе міф хамаў на паркетах: калі напішаш нешта па-англійску, то ўсе ахаюць і охаюць, а калі напішаш па-беларуску, то скажуць: „От, нічога асаблівага, фігня".

***— Снабізм...***

— Так, снабізм. Здаралася нават так, што мае выставы ў Беларусі не ўпісвалі ў лік выставаў, бо ім здавалася, што гэта нешта зусім нецікавае. Калі ў Віцебску, тады іншая справа, бо там комплекс Марка Шагала. Для мяне гэта не мае значэння дзе і як, важна — што.

***— Вось менавіта — быў Ты з выставай сваіх прац у Беларусі, але не быў успрыняты вельмі цёпла. Чаму?***

— Гэта быў сапраўдны скандал. Быццам бы міжнародны абмен, згодна з дамовай, падпісанай міністрамі замежных спраў. Ніхто не мог паверыць, што нешта такое можа быць. Дагавор быў заключаны яшчэ пры Шушкевічу. Калі адбыліся змены ва ўладзе, то ніхто не хацеў адказваць за старыя абавязацельствы. На жаль, нічога не зрабіў тагачасны віцэ-міністр культуры Уладзімір Рылатка. Я яму нават сказаў у яго кабінеце: „Слухайце, чаму вы мяне так прыніжаеце перад палякамі? Гэта ж для мяне страшэнны сорам". Што ж, проста змяніўся рэжым.

***— Прыкра, што не было ацэнена Тваё майстэрства мастака, а верх ўзялі палітычныя матывы.***

— Так, гэта было вельмі прыкра — ехаць у Беларусь і вяртацца прыніжаным. Тым больш, калі я параўноўваў сваю сітуацыю з іншымі мастакамі. Напрыклад, у той час літоўскі мастак, вельмі вядомы як у Польшчы, так і за мяжой Стасыс Эйдрагявічыус таксама паехаў на сваю Бацькаўшчыну — у Літву, дзе яго класна прынялі і ў Вільні выдалі цудоўную кнігу. А тут едзеш у Беларусь з вялікімі надзеямі, а ставішся да цябе як да чужынца. Што ж, пачакаем, сітуацыя мяняецца, разваліцца і гэтая ўлада. Як спявае Лёня Вольскі — мы жывем пад асфальтам.

***— Дзякую за размову.***

*Данута БІЧЭЛЬ*

### Мяне выгналі на пенсію з Музея Максіма Багдановіча

*Выйшла. Куды Мне вяртацца?!*
*Выгналі з Дому і Працы.*
*Злыя бясплодныя жабы*
*сажалку робяць з дзяржавы.*

*Вецер у кінутым Доме*
*будзе шукаць Мяне доўга.*
*Там, дзе Мне вершы складаць,*
*будуць свіней гадаваць.*

*Знікну ў крывыя завулкі*
*Ценем Паэтавай Маці*
*пад фісгармоніі гукі.*
*Выскачкі, месца займайце!*

*Бездары лезуць на змену,*
*смерцю Паэта мараюць.*
*Добра, што больш не сустрэну*
*іх паняманскую зграю.*

*Міра ЛУКША*

### Вобраз

*іголкай ільду рысуецца вобраз*
*прасторы*
*крохкай хвіліннасці і вечнага*
*паўтарэння*
*дасканаласці крышталю*
*і невыпадковасці рысы*

*не няма выпадковых сустрэч*
*няма трэшчын у часе і хібаў*

*расколваем першым крыкам паветра*
*і шчыліна зачыняецца за намі*

*як маланка*

*калі вяртаемся ў вобраз*
*нарысаваны іголкай у Майстровай*
*далоні*

*Барыс РУСКО*

### Сляды

1

*Дня нараджэння свайго*
*не помню.*
*Жыву ад заўжды,*
*а пamру — не жыў*
*ніколі*
*Лік дзён вяду з пачатку года*
*і думаю,*
*што ўсе гады высакосныя,*
*мо нават старэйшыя на пару дзён.*
*У касу сплятаю горыч няўдач,*
*як часнок,*
*і між вуліцай з брамай рынку*
*губляю.*

2

*У бурштынавых пакоях зямлі*
*трывалыя сляды эпохі.*
*Сціску ў руцэ гісторыю*
*і ўбачу хворыя пункты.*
*У памяці абрысы майго часу*
*памалу гаснуць.*

3

*Іду сыпкімі дзюнамі,*
*а вецер у сляды ўганяе*
*неацэненыя хвіліны.*
*Дык як магу сказаць,*
*што па сабе*
*пакінуў малы копчык*
*успамінаў.*

*Міра ЛУКША*

### Луг

*Трываю з тварам над травою.*
*Ствараю зрокам прастору.*
*Трава трывае маё крананне,*
*Маё трыванне пастаронняе.*
*З раю вяртанне, у рай траплянне.*
*Роіцца, мроіцца, лашчыцца, ціўшыца*
*Ад стварэнняў з тварам і бястварых,*
*Травяных, укрыленых, растаропных*
*і трапных*
*У краяглядзе, дзе яны і я.*

*Міра ЛУКША*

## Віктар, Нічыпар і Рэня

Даўно Нічыпар не спяваў. Старэнькі, з парадзелымі пёрамі, быў, так сказаць, на пенсіі ў бабы Рэні. Трымала яго, як і цюціка (малы сабачка — да старасці шчанюк) Віктара, беспародзістага, з норавам і крывымі кароткімі ножкамі таксіка, аблавухага ды з пёрыстым буйным хвастом бы з іншага сабакі — як песціць звяроў шмат хто з самотных людзей. За радню Рэні былі, за сяброў Нічыпар ды Віктар. Віктар выгульваў бабу Рэню зранку ды ўвечары, а то б сіднем сядзела ў хаце перад тэлевізарам або ў касцёле.

Віктар бадзёра, трошкі сіплавата час ад часу пабрэхваў — пільнаваў, каб ніхто не пакрыўдзіў гаспадыню ды каб хто чужы ў хату не зайшоў. А Нічыпар моўчкі падзюбваў канар, сядзеў у клетцы, здавалася б, зусім безудзельна.

Анямеў Віктар, убачыўшы на падлозе Нічыпара. Ад нечаканасці прысеў, віскнуў. Нічыпар начапурыўшы бляклае жоўтае пер'е баявіта ступіў перад сабаку, надзьмуў пёркі на шыі і адчайна закрычаў. А пасля з яго перасохлай ад страху дзюбкі палілася песня — услаўленне волі, адвагі, жыцця. Віктар гэта адчуў, і, паглядаючы на адчыненую клетку старое канарэйкі, узвыў разам з пташкай адчайна, шкадобна.

Прысутнічаў Віктар на пахаванні старога Нічыпара. З ганаровым салютам — трэскам запальнічкі бабы Рэні, што закурыла на канец сумнай цырымоніі ў лысым ляску за блёкамі, прысеўшы на кукішкі над маленькай магілкай канарэйкі. Паклала была мёртвую пташку ў кардонку ад дзіцячых боцікаў, што знайшла на сметніцы пад супермаркетам, загарнула ў латку ядвабнай тканіны ад сукенкі ў макі, што ў маладосці сабе пашыла, худое вялае цельца колеру пяску. І асыпала нябожчыка пялёсткамі вяргіні, што расце ў гародчыку пад блёкам.

Ля магілкі праходзілі штодзень, выгульваючы сябе ўзаемна, баба Рэня і сабачка. А хадзіў часам і сам Віктар. Затаптаны быў ужо копчык, але ён сваім прачулым нюхам адчуваў, дзе ляжаў Нічыпар. Бачыў яго ў сваёй кароткай памяці, як верашчыць на падлозе ваяўніча, не прымяраючы, як тыя вароны на сметніку. Не выпадала сабаку раскопваць магілку, але неяк давялося. Гнаны інстынктам паляўнічых продкаў, узрыў Віктар тое месца. Але не было там чамусьці Нічыпара... Нават кардонкі, у якой быў пахаваны.

Ад усеагортваючага смуроду бензіну, шмару і бруду Віктар ажно скалануўся і пабег дадому. У гэты раз з ахвотай палез у ванну, дзе яго выскрабла ды вымыла шэрым мылам баба Рэня. Яшчэ і сам дзёрся лапай, чухаў спіну, выціраўся аб дыван. Гатовы зноў быў яшчэ раз улезці ў ванну, да гаспадыні, што цяпер хлюпатала там сваім худым жылістым целам, па самую шыю ў пене. Тая пена, востра пахнучая ружай, найбольш збрыдзіла сабаку — умакнуў туды толькі лапу, абтрос і пайшоў у свой кошык.

У сне ўздрыгвалі яму лапы, варушыліся чуткія вусы, хадзіла скура на ўсім целе — снілася паляванне. Не на выбітай пляцоўцы перад блёкам, а сярод буйных кустоў, якія білі яму лістоўем у спіну, сярод абліваючых прахалодай дрэў. Лапы неслі яго амаль у паветры над пругкай зямлёй. А наўкола лятала жоўтыя Нічыпары і спявалі пра волю.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Вучаніцы III і IV класа ПШ у Кнарыдах з настаўніцай беларускай мовы Надзеяй Аврчук.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Пачаўся новы 1999/2000 навучальны год

Ад верасня працуюць гімназіі. Рады гімназістаў зараз складаюць выпускнікі шостага класа пачатковай школы. Нярэдка ў іх школьным жыцці шмат што памянялася. Новая школа, новыя сябры, настаўнікі...

Рэзкія змены звычайна спрыяюць развіццю чалавека. Трэба спадзявацца, што гэтак будзе і ў выпадку нашых чытачоў. Рэдакцыя „Зоркі” і далей будзе старацца супрацоўнічаць са школамі і гімназіямі. Будзем наведваць нашых чытачоў у самых далёкіх кутках Падляшскага ваяводства. Пісаць пра вашы поспехі і праблемы. Дапамагаць у вырашэнні нялёгкіх пытанняў. Хочам і далей прывіваць любоў і пашану да нашай старонкі, людзей, мовы. Будзем знаёміцца і супрацоўнічаць з суседзямі палякамі і сябрамі з Беларусі. Традыцыйна ўжо будзем ладзіць усялякія конкурсы: мовазнаўчыя, краязнаўчыя, гістарычныя, літаратурныя з многімі ўзнагародамі, а для карэспандэнтаў арганізаваць журналісцкія курсы — Сустрэчы „Зоркі”.

„Зорка” ў асноўным будзе падзяляцца на дзве часткі. Першую будуць складаць матэрыялы для вучняў пачатковых школ, другую — для гімназістаў. Спадзяемся, што нашы чытачы надалей будуць фарміраваць воблік сучаснай „Зоркі”. Пастараемся, каб наша беларуская газета гаварыла вашымі вуснамі, адлюстроўвала вашы думкі і жыццё.

Усіх, асабліва пачаткоўцаў, горача заахвочваю падпісацца на нашу газету. Не пашкадуеце!

**Ганна КАНДРАЦЮК**

Васіль ЖУКОВІЧ

## *Вераснёвыя лясы*

Незвычайнай прыгажосці
вераснёвыя лясы.
Узняліся ў поўным росце,
расквітнелі верасы.
Яркагронкія рабіны
запалалі ў гушчарах,
нетаропка журавіны
даспяваюць па імхах.
А з-пад лісця, з-пад іглічкі
ўзышлі баравікі,
сыраежкі і лісічкі,
бабкі і махавікі.
Ды ў лясах, такіх багатых,
шчодрых восеньскіх лясах
нам чамусьці сумнавата
па птушыных галасах.
Адзвінелі, адзвінелі
звонкіх птушак галасы,
пацішэлі, пасумнелі
вераснёвыя лясы.

Васіль САХАРЧУК

## *Моўныя адгаданкі*

**1.**
Калі 100 літар „л” пазначыш,
у кожнай хаце мяне ўбачыш.
Я, быццам кот, чатырохногі,
ды мае ногі ад падлогі
спакон вякоў па ўласнай волі
не адрываліся ніколі.
Калі ж ты „л” на „г” папраміш —
гарачым летам за ракой
на лузе, голеным касой,
гару духмяную паставіш.
Рагуля сытая за тое
табе аддзячыць сырадоем.
**2.**
Вазьмі імя начное птушкі
і адну літару за вушкі
адразу выкінь у закутак
з яго пачатку, каб дадаць
назоў такое часткі сутак,
калі той птушкі не відаць.
І ўміг з-пад кемнага пяра
ўзляціць назола-жамяра.

# Узнагароды, узнагароды!

Увага чытачы! У нашай рэдакцыі чакаюць узнагароды школьнікам за мінулы навучальны год. Усе лаўрэаты могуць узяць свае прызы ў нашай рэдакцыі або чакаць іх у сваёй школе. Паведамляем, што з пачаткам навучальнага года зноў будзем праводзіць конкурсы з узнагародамі. У верасні прадбачваем таксама рашэнне конкурсу „Артыкулы квартала” (за другі квартал 1999 года).

Ніжэй прыводзім прозвішчы школьнікаў, якіх чакаюць узнагароды:

1. **Эва Конюх** — ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.
2. **Ася Гаўрылюк** — ПШ у Старым Корніне.
3. **Агата Карэйчук** — ПШ у Нарве.
4. **Марта Карнілюк** — ПШ у Орлі.
5. **Івона Лісавец** — ПШ у Гарадку.
6. **Уршуля Алексяюк** — ПШ у Кнарыдах.
7. **Міхал Гайдук** — ПШ у Нарве.
8. **Станіслаў Раца** — ПШ у Кнарыдах.
9. **Віялета Ляшчынская** — ПШ у Нарве.
10. **Марта Кучынская** — ПШ у Нарве.
11. **Уршуля Ляўчук** — ПШ у Гарадку.
12. **Анэта Хіліманюк** — ПШ у Нарве.
13. **Марцін Лукошык** — ПШ у Гарадку.
14. **Анэта Харытанюк** — ПШ у Старым Корніне.
15. **Іаанна Карчэўская** — ПШ у Крывой.
16. **Уршуля Гегель** — ПШ у Гарадку.
17. **Анна Баравік** — ПШ у Дубічах-Царкоўных.
18. **Міраслава Сідарук** — ПШ у Крывой.

## Вершы Віктара Шведа

### *Спадчыннасць*

— Што гэта спадчыннасць, Мікола?
Я ж растлумачыў вам шырока, —
Запытаўся ў вучня біёлаг
На вельмі цікавым уроку.

— Спадчыннасць тады вось выступае, —
Адказаў Мікола зухавата, —
Калі двойку раптам атрымаю
Я за працу, што напісаў мне тата.

### *Уладар мароз*

— Скажыце, дзеткі дарагія,
А як жа называўся ён,
Што панаваў тады ў Расіі,
Калі ўцякаў Напалеон?

Адказамі сваімі Тома
Усіх рассмешвае да слёз:
— Гісторыкам даўно вядома:
Гэта ж быў уладар мароз.

# Польска-беларуская крыжаванка № 36

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы з наклееным кантрольным талонам дашліце на працягу 3 тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 31:** Бурак, банан, нуда, Алі, ткаха. Кант, унук, рада, манах, бал, гол, факір.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Sajan / Diament | Bojar / Syk | | Jama | Jar / Niemoc | | |
| | | | | | Usta / Nora | |
| | | | | | | |
| Sklep | | | | | | Ar |
| 📖 | 🔔 | 📖 | Ara | | | |
| Garn-carz | | | | | | |

„Зорка” № 36 05.09.1999

Міра Лукша

# Словы — магія свету

„Словы — магія свету”, — гэта словы з верша Касі Ярашэвіч, што прымала ўдзел у III Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Паэт ведае або прадчувае моц слова. Гэта яго *сусвету закліканне* (Міхась Андрасюк). Гэта сусвету тлумачэнне, гэта асвойванне і разгадванне сваёй душы — мікракосмасу. Гэта таксама моц тварца — вось тое ў Адама ёсць, што ўпадабняе яго да Айца-Яговы — разам з духам і целам Ён даў яму творчасць і цікавасць адкрывання. *І будзеш даваць усяму гэтаму імя!* — гэта і ласка, і турбота, і боль. Але хто паэт — а гэта, бывае, і іншы спосаб жыцця, — выбірае: вечнае здзіўленне, ненасытны неспакой і трывогу, пытанні, на якія можаш не знайсці адказу, неспатоленасць, чаканне і пошукі...

І спробы даць адказ, што найважнейшае ў жыцці. Як у вершах **Анэты Галімскай**, якая, у цяні свае старэйшае сястры Агнешкі, ужо даўно ліцэісткі і друкаванай паэткі, адважылася даць на суд чытачам свае роздумы, а можа інтуітыўны довед, аб тым, што самае важнае ў жыцці і ў свеце: *каханне — адна радасць у жыцці*. Што *жыццё мае, жыццё твае, жыццёвы шлях у кожнага з нас*. А чалавек *марыць аб жыцці і жыць для мары, кахання, любові*. І з радасцю, што адчувае значэнне паняцця *мой*, паэтка кажа: *мой любімы*, *мая радзіма, Бацькаўшчына, бацькі*. Вершы Анэты Галімскай здадуцца мо некаму занадта „простымі”, без „паэтычных” прыўкрас, але гэта і ёсць іх цана: найцяжэй даюцца **простыя** словы, а сэнс верша не ў шматслоўі, якое можа аказацца пустаслоўем, лішняй гаварнёю, славацёкам-самацёкам. У кожным радку столькі эмацыянальнага зараду, што кожнае слова выцёвваецца ў сэрцы і памяці чытача. Гэтыя вершы „малой” паэткі гучаць манументальна (бо і датычаць экзістэнцыяльных пытанняў) — хоць яна наймаладзейшая з дэбютантаў, чые вершы былі заўважаныя вопытнымі і вядомымі членамі журы конкурса.

Вершы іншых паэтак з I групы (вучні пачатковых школ), сёлета ўжо ліцэістак (**Жанэты Ролі** і **Мажэны Жменькі**) дынамічныя — у руху. Гэта і ўцёкі — *уцякаю перад светам у глыб сябе* (М. Ж.), *спалоханая — хачу, магу, уцякаю* (Ж. Р.), і плынь — *паплывуць дрэнныя думкі* (М. Ж.), *папłыла апошняя сляза* (М. Ж.), і ход — *адыдуць кашмары* (М. Ж.), *дойдзем да брам раю* (М. Ж.), і палёт — *адлятаюць людскія сэрцы, адляцім далёка* (М. Ж.), і чаканне, сон, знерухоменне — *я з'ўяляюся чаканнем* (Ж. Р.), *чакаю:... канца свету* (Ж. Р.), *у глухім маўчанні чакаюць прабачэння* (М. Ж.), *вушка кубка дрэмле ў фарфоравым сне* (Ж. Р.), танец — *мары танцуюць у рытм тваіх вейкаў* (Ж. Р.), а таксама пошук — *шукае кроплі надзеі і не можа знайсці* (М. Ж.).

Словы *шукаюць вымытага дажджом сэнсу існавання*, так як і тыя, хто валодаюць словамі (не **выкінутымі**, як *страчаныя дні, месяцы, гады*), шукаюць *праўды, замкнутай у падвалах хлусні* (М. Ж.). Маладосць бунтуецца супраць акасцянелай брыды, з якой асацыюецца ёй старое (не мяшайма гэтага з узростам!), з крывадушнасцю, з грэхам. ***Зьмяніць свет!*** — заве ў загалоўку аднаго з вершаў Мажэна. А мы *сядзем у карабель надзеі, засвецім усе зоры*. Але ў пачуццях адчужэння да таго, супраць чаго маладое сэрца бунтуецца, ёсць і шкадоба — каб прабіцца да зор, трэба праціснуцца праз *лабірынты жалю*, каб *дайсці да брам раю*. *Акіян жалю*, у якім *тапіцца кроплі роспачы* мае другі бераг — *люстра слёз*... Вершы Мажэны асацыююцца нам з чымсьці светлым (*жамчужына*), вымытым слязамі, някранутым, як белы ліст *сярод тысячы кніг*. І яно ўсё тое вельмі паэтычнае, маладое, што Мажэна ўлавіла мо інтуітыўна або ў строгай творчай задуме: выявіла душу сваю і тых хто піша (а **пішуць** усе маладыя), *схопленыя вадаспадам мар*, і што *не могуць дакрануцца да зямлі*. Здаецца, паддаў бы рукі, раскінуў бы іх перад той лятучай душой, каб не ўпала, не разбілася аб жорсткую зямлю, не запэцкала свайго светлага крылля. Каб не згубіла роднага слова, каб тая перліна не ўпала перад свіней. Бо, як у Анатоля Сыса, *прыйдзе брудная свіння, разрые клады сярод дня*, пачне пытацца ў нашых дзяцей: „A wy po polsku pisać nie umiecie?!”



Злева: Мажэна Жменька, Жанэта Роля, Ірэна Кулік. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Кацярына* ЯРАШЭВІЧ

## Словы

*Як рэха разносяцца,*
*па свеце плывуць,*
*прадвяшчаюць добрыя навіны,*
*жаль людзям нясуць.*
*Умеюць забіць*
*самыя скрытыя мары чалавека*
*і аздаравіць*
*яго душу.*
*Словы — магія свету.*

*Мажэна* ЖМЕНЬКА

* * *

*На сцежках жыцця, на скрыжаванні дарог*
*Шукаюць украдзенага шчасця*
*Не знойдзенага кахання...*
*Праз пабітае акно глядзяць на свет*
*Выкінутыя словы*
*Страчаныя дні, месяцы, гады...*
*Шукаюць вымытага дажджом сэнсу існавання*
*Праўды замкнутай у падвалах хлусні*
*Ідучы сцежкамі асалоды*
*Забыліся пра жыццё*
*Цяпер у адзіноце і глухім маўчанні чакаюць прабачэння*
*Рабы граху...*

*Жанэта* РОЛЯ

* * *

*Гранатавым сяйвом крывавіць настольнік*
*Вушка кубка дрэмле ў фарфоравым сне*
*Затопленая ў салодкім моры ўспамінаў*
*Чакаю: канца... новага пачатку.*

*Анэта* ГАЛІМСКАЯ

## Многа любові

*Мой любімы,*
*Мой сябра,*
*Мая радзіма,*
*Бацькаўшчына.*
*Мая маці,*
*Мой бацька*
*Кахаюць мяне.*
*Я таксама*
*Хачу сказаць:*
*Кахаю.*

# Прыгожая Кінгі

Пры панаванні даўніх каралёў у аколіцы Нарвы, дзе цяпер квітнеюць палі і сады, былі магутныя лясы. Высокія, магутныя дрэвы гаманілі з нябёсамі, з сонцам, з месяцам. У такім лесе і днём і ноччу было цёмна. светлыя праменні сонца не маглі прабіцца цераз сплёт галінак да лясных маленькіх раслінак. У лесе выводзілася многа розных звяроў і птушак. Мядзведзі, ільвы, тыгры, ваўкі вылі, птушкі крычалі. Усё гэта злівалася ў адзін магутны голас, ад якога цэлы лес дрыжаў, дрэвы хісталіся.

Праз лес працякала вялікая бурлівая рака Нарва. Яна цякла хутка, ірвала берагі. Старыя дубы, таполі валіліся ў раку і разам з ёю плылі далёка-далёка. Ніхто і нішто не магло спыніць шпаркага бегу ракі.

У тым месцы, дзе рака ўлівалася ў другую раку, лес рос радзей, а за лесам цягнуліся зялёныя палі, сады і агароды, пасярод якіх, на беразе Нарвы, стаяў прыгожы палац каралевы Кінгі.

У садах спявалі птушкі. Каралева Кінгі цэлыя дні праводзіла ў садзе, у лесе, збірала грыбы і ягады.

Вельмі рана, калі сонейка яшчэ не ўзышло, калі раса пакрывала раслінкі, выйдзе каралева Кінгі з кошыкам у руцэ ў лес. Распусціць свае доўгія прыгожыя косы, сядзе на пянёк і прыслухоўваецца да спеву птушак. Яна не толькі любіла слухаць спевы птушак, але самі птушак вельмі любіла. Прыносіла ім яду: пшаніцу, авёс. І птушкі таксама любілі сваю каралеву, лёталі ўслед за ёю: сядзе яна пад яблыняй — і яны тут, сядзе на лавачцы — і яны тут.

І ўсё пяюць і пяюць. А спеў іх нёсся далёка-далёка. Пачуюць яго сяляне, якія працуюць далёка ад палаца, стануць, здымуць шапкі ды прыслухоўваюцца да той чароўнай музыкі. І так лёгка робіцца на душы...

Аднаго разу, калі каралева выйшла ў сад, затрэслася зямля. Затрэслася раз, другі, трэці. Кругом пацямнела, і палац праваліўся пад зямлю.

З таго часу там, дзе стаяў палац, засталася невялічкая гара, якая захавалася і да гэтага часу. Каралева Кінгі не забывала сваіх дарагіх птушак, не забывала і прыроду. У поўнач яна выходзіла з-пад зямлі, распальвала агонь і сядала на камень. Праязджаючы, людзі бачылі, як свяціўся агеньнёк на гары, але баяліся туды ісці. А каралева Кінгі кожную ноч выходзіла на гару. Яна чакала, каб які чалавек прыйшоў да яе і нарваў ёй букет кветак.

Аднойчы каля гэтай горкі на кані праязджаў стары разбойнік са сваёй здабычаю. Раптам убачыў агеньчык на гары. Ён падумаў, што гэта кавалак золата так свеціць, і пайшоў на гару. На самым яе версе, на камені, сядзела красуня-дзяўчына. Гэта і была каралева Кінгі. Яе прыгожыя льняныя валасы даставалі да самай зямлі, чорныя вочы свяціліся, як дзве зорачкі, а яе чырвоныя шчокі палалі проста агнём. Перад ёю стаяў адкрыты сундук поўны золата. Брала яна гэтае золата ў жменю, падымала руку ўверх і сыпала яго зноў у сундук. А здалёк здавалася, што гэта гарыць агонь. Стары разбойнік падышоў бліжэй да каралевы, але не мог вымавіць і слова. Кінгі павярнулася да яго і ласкава сказала:

— Ідзі, добры чалавеча, нарві кветак і прынясі мне, а я табе аддам усё золата.

У той момант стары разбойнік, як дзікі звер, кінуўся з нажом на каралеву. Але што за дзіва? На гэтым месцы, дзе сядзела Кінгі, нікога не было!

Разбойнік махнуў нажом у паветры. О, дзіва! На месцы, дзе стаяў разбойнік, ляжаў вялікі камень.

Стары разбойнік абярнуўся ў камень, які і зараз ляжыць на гэтай гары.

# Каб дамачадцы сталі больш актыўнымі



Дом узаемадапамогі ў Гайнаўцы распачаў сваю дзейнасць толькі 7 жніўня 1997 года, а зараз прыходзіць туды і прыязджае больш чым трыццаць асоб, у галоўным жыхароў Гайнаўкі. Сустракаюцца ў ім дарослыя людзі, якія пакутуюць ад псіхічных хвароб.

— Спачатку прыходзіла пятнаццаць асоб. Нашы наведвальнікі знаёміліся з сабою, дэкаравалі залы і выконвалі простыя працы ў нашым агародчыку. Пасля распачаліся заняткі па тэрапіі, у якіх прымае ўдзел больш чым трыццаць асоб, — кажа кіраўнік Дома Зінаіда Кендысь. — У час заняткаў намагаемся выклікаць як найбольшую актыўнасць і інтэграваць нашых дамачадцаў. Выконваюць яны працы, якія развіваюць неабходныя ў прафесійнай працы і самастойным жыцці ўмеласці. Так падбіраем заняткі, каб зацікавіць жыхароў і адначасна ўлічыць псіхафізічныя магчымасці розных асоб. Пастаянна супрацоўнічаем з Амбулаторыяй псіхічнага здароўя ў Гайнаўцы і бацькамі нашых пацыентаў. На месцы працуе ў нас асістэнт, які вядзе псіхіятрычную апеку, што дазваляе нам увесь часназіраць за рэзультатамі нашай працы.

Дом узаемадапамогі заснаваны быў пастановай Рады горада Гайнаўкі, якая вядзе над ім нагляд. Фінансаванне забяспечвае бюджэт Падляшскага ваяводы. Усе заняткі адбываюцца ў прыгожым будынку, прыстасаваным да тэрапіі. Вонкавы выгляд дома нагадвае архітэктуру Белавежы і Гайнаўкі ў XIX стагоддзі. Усярэдзіне — залы для тэрапіі. У зале мастацтва дамачадцы выконваюць дэкарацыі на ўсе мерапрыемствы, малююць, рысуюць і робяць розныя прадметы, якія развіваюць уяўленне і здольнасці. У тэхнічным кабінеце паўстаюць, у галоўным, драўляныя прадметы, вешалкі, падстаўкі пад кветкі, рамкі для карцін, дэкарацыі. Наведвальнікі вучацца таксама выконваць простыя працы, неабходныя ў штодзённым жыцці. Кіраўнік Зінаіда Кендысь паказвае вельмі шыкоўна абсталяваныя кабінеты. Многія працы ўпрыгожваюць залы. У зале, дзе ткуць, вяжуць пруткамі, кручком і шыюць на выстаўках красуюцца сурвэткі, карціны, падушкі і талісманы, а на падлозе — самаробныя палавічкі. Вялікім зацікаўленнем карыстаюцца заняткі па фізкультуры ў добра абсталяванай зале або на свежым паветры. Найчасцей пацыенты гуляюць у футбол і настольны тэніс, карыстаюцца спецыяльнымі веласіпедамі. У кухні іх вучаць, як падрыхтаваць сабе простыя стравы, упрыгожыць іх і правільна весці сябе за сталом. Менавіта ў рамках гэтых заняткаў дамачадцы разам са сваімі апекунамі падрыхтавалі былі каляднаю вячэру.

— Апрача заняткаў на месцы рэгулярна наведваем гарадскія асяродкі культуры, бібліятэку, кіно, былі ўжо ў тэатры і на некалькіх экскурсіях. Знаёмімся з рэлігійнымі і нацыянальнымі святамі, святкуем іх. На сустрэчы запрашаем цікавых гасцей. Існуе ў нас літаратурны гурток, клуб аматараў кіно, арганізуем паэтычныя вечарыны, турніры, конкурсы, гульні, ездзім на вогнішчы. Хочам, каб нашы жыхары сталі больш актыўнымі, каб развівалі свае зацікаўленні. Тыя, якія зацікаўлены музыкай маюць магчымасць вучыцца іграць на гітары, спяваць. Ёсць таксама свая бібліятэка, якая карыстаецца зацікаўленнем, але слухаем кніжак таксама і на касетах, а пасля вядзем дыскусіі, — расказвае Зінаіда Кендысь.

Жыхары Гайнаўшчыны прыходзяць у Дом узаемадапамогі па накіраваннях Гарадскога асяродка грамадскай дапамогі ў Гайнаўцы або іншых гмінных асяродкаў Гайнаўскага павета. Многія прыязджаюць на спецыяльнай машыне, якая звозіць жыхароў Гайнаўкі, а пад вечар адвозіць назад. Жыхары іншых мясцовасцей прыязджаюць на аўтобусах.

— Некаторыя асобы ў нас ад пачатку працы Дома і яшчэ застаюцца з намі, але ў выпадку некаторых жыхароў ужо паўгадовая тэрапія дазваляе спыніць заняткі, бо і многа іншых ахвотных прыходзіць у наш Дом. Зараз наведвае нас 38 асоб. Ад самага пачатку займалася ў нас 50 чалавек, — адзначае кіраўнік Зінаіда Кендысь. — Наша праграма рэабілітацыі магчымая дзякуючы добраму супрацоўніцтву з Інстытутам псіхіятрыі і неўралогіі ў Варшаве, дзе стажыроўку праходзілі некаторыя нашы працаўнікі. Мы адкрыты на ўсе формы супрацоўніцтва з асяроддзем, таму і наладзілі экскурсію для нашых дамачадцаў на востраў Волін і ў мінулым годзе наладзілі І Сустрэчы інтэгруючыя дамы ўзаемадапамогі Беласточчыны. 1 ліпеня 1999 года арганізаваны былі ІІ Сустрэчы пад лозунгам „Бліжэй сябе", якія адбываліся ў ГДК. Дамачадцы з розных мясцовасцей нашага ваяводства знаёміліся, выступалі на сцэне, гулялі і спаборнічалі. Пасля ўсе паехалі вузкакалейкай у Тапіла і ў Белавежскай пушчы адпачывалі ля вогнішча.

**Аляксей Мароз**

# 50-гадовы юбілей



*Яну і Мар'і Кердалевічам з вёскі Чаромхі медаль уручае войт Міхал Врублеўскі.*

Традыцыяй у Чаромхаўскай гміне стала святкаванне 50-годдзя шлюбных пар.

Сёлета паважаныя юбіляры сабраліся ў нядзелю 15 жніўня ў мясцовым асяродку культуры. А было іх адзінаццаць параў. Уладзімір і Вера Пашкоўскія, Юзэф і Яўгіння Высоцкія, Мікалай і Вера Ярашукі, Зыгмунт і Аліцыя Кордысы з Чаромхі-Станцыі, Ян і Мар'я Кердалевічы, Пятро і Яўгіння Саўчукі з вёскі Чаромхі, Сцяпан і Надзея Алексеюкі, Герасім і Яўгіння Раманчукі з Апакі, Сяргей і Зоя Калішэвічы з Кузавы, Дзмітры і Мар'я Баравікі з Баброўкі і Пятро і Ганна Якацюкі са Ставішчаў.

Ганаровыя медалі і віншаванні ад імя Прэзідэнта Рэчы Паспалітай перадалі юбілярам войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі, сакратар Гміннай управы Валянціна Кердалевіч і кіраўнік ЗАГСа Цэліна Ярмуловіч.

Пачастунак арганізавалі працаўнікі гміны. Былі падарункі, шампанскае і тосты. Успамінам не было канца. Такія хвіліны надоўга застануцца юбілярам у памяці.

**Уладзімір Сідарук**

*Фота Тамары Кердалевіч*

# Фартухі-запаскі

Неад'емным атрыбутам народнага традыцыйнага жаночага касцюма з'яўляецца фартух, які завязваецца на таліі.

Ні адна жанчына, якая шануе сябе, не пакажацца без хвартуха перад мужчынам, з якім яна лічыцца як з чалавекам. Пры з'яўленні ў хаце чужога чалавека гаспадыня перш за ўсё глядзіць, ці прыстойна яна адзета, ці падпярэзаны ў яе фартух.

Старажытныя ўсходнеславянскія тэрміны „пярэднік", „запон", „хвартух" — найбольш распаўсюджаны на польска-беларускім памежжы, адносяцца да даўніх відаў адзення. Аб гэтым сведчаць пісьмовыя крыніцы — помнікі XVI-XVII ст.ст., і наяўнасць старажытнай геаметрычнай вышыванай ці тканай арнаментыкі, гарманічна звязанай з кроем фартуха. Традыцыйны беларускі фартух у залежнасці ад шырыні палатна і мясцовых асаблівасцей шыўся з аднаго, часцей з двух палотнішчаў, былі і выключэнні. Дэкарыраваўся ён звычайна адным або некалькімі папярочнымі бардзюрамі на падоле. Колькасць арнаментальных палос, іх шырыня, кампазіцыйнае размяшчэнне, наяўнасць ці адсутнасць дэкору на завязках (пасках, тычках), у месцах злучэння палотнішчаў вар'іравалася па рэгіёнах — Заходняе Палессе, Панямонне, Падляшша. Спосаб выканання дэкору і яго характар, як правіла, былі аднатыпнымі для фартуха і кашулі, што з'яўлялася адной з важных умоў вобразнага адзінства касцюма. Даўжыня беларускіх фартухоў амаль заўсёды супадала з даўжынёй спадніцы.

Галоўным азадабленнем фартухоў з'яўляецца вышыўка, якая ўзбагаціла не толькі кавалак палатна, а народнае мастацтва. Фартухі характарызаваліся вытанчанай, дробнаўзорыстай, геаметрычнай арнаментыкай у тэхніцы працягу, а таксама нярэдкім спалучэннем геаметрычнага і расліннага арнаментаў, з больш разнастайнай каларыстыкай, з выкарыстаннем тэхнікі набору, крыжыка. Кампазіцыя складалася з некалькіх вузкіх бардзюраў чырвонага колеру з тонкімі лініямі сіняга або чорнага колераў. І толькі ў першай палове XX ст. прыйшло аздабленне аплікацыяй з каляровага пакупнога матэрыялу — сацін.

Падляшскія запаскі-фартухі шылі з ільнянога палатна (даўжыні 70 см, шырыні 60 см). Сустракаліся і з двух полак. Надбужанскія запаскі выступалі ў двух варыянтах: даўней ткалі ў вузкія вертыкальныя палоскі, пазней, у пачатку XX ст., пераважна сустракаліся з гарызантальнымі палоскамі, якія цікава і кантрастна выглядалі на фоне спадніцы ў вертыкальныя шлякі. Запаскі новага тыпу ткалі на сінім фоне, часта цёмна-сінім і зялёным. Краі такой запаскі абшывалі карункай і чырвонай або жоўтай тасьмай (крэпінкай).

Агульнаэтнічная і рэгіянальная асаблівасць вышыванага арнаменту, матыву разеткі характэрна для позняга тыпу фартухоў Падляшша і Дамачова (Заходняя Беларусь). Ён уключае фігуры самай разнай канфігурацыі, якія прысутнічаюць як неабходны кампанент і ў чыста геаметрычным, і ў раслінна-геаметрычным дэкоры. У даных выпадках гэта васьмівугольныя зоркі, упісаныя ў ромб ці апісаны вакол яго. У другіх — фігура, быццам складзеная з пялёсткаў-лопасцей. Сустракаюцца разеткі вытвораныя ад косага крыжа ці многаступенчатага ромба. У раслінна-геаметрычных узорах трансфармацыя разеткі вядзе да стварэння стылізаванай кветкі з пялёсткамі мяккіх круглых контураў, што і заўважаецца ў арнаментальным дэкоры надбужанскіх фартухоў. Супольным элементам для ільняных фартухоў Панямоння, Падляшша і Заходняга Палесся з'яўляецца ромб. Звычайна ён з'яўляецца стрыжнем кампазіцыі, вакол якога групаваліся іншыя фігуры, як разетка. Ромб ускладняўся прадаўжэннем двух сумежных бакоў, якія ўтвараюць верхні і ніжні вугал. Нярэдка прадоўжаныя бакі ўскладняліся іншымі меншымі ромбамі па ўсіх вуглах. Тэндэнцыяй геаметрычнага арнаменту ў гэтым выпадку (фартух) з'яўляецца вылучэнне ромба, які нясе асноўную інфармацыю і кампазіцыйную нагрузку ў бардзюрах размешчаных на падолах фартухоў і іх фальбанках.

**Івона Марціновіч**

# Па слядах мінулага



*Уніяцкая царква ў Тыкоціне, перанесеная пазней у Саколы ў якасці рымска-каталіцкай могільнікавай капліцы (рэпрадукцыя А. Навіцкага з кніжкі „Miasta polskie w Tysiącleciu", Warszawa 1965, t. I, s. 282).*

**Тыкоцін**

Раннесярэдневяковы Тыкоцін быў пабудаваны на сушы ў трох кіламетрах на поўдзень ад ракі Нарвы. Знаходзіўся ён на паўночна-ўсходняй граніцы мазавецкага асадніцтва. У магілах ля гарадзішча і на грунтах вёскі Яжэва былі знойдзены пацеркі з цёмнага шкла. Гэты від пацеркаў археолагі знайшлі ў Старой Ладазе і на рускіх могільніках, а датуюцца яны на VIII і IX стагоддзі. Польска-руска-літоўскія войны на гэтай тэрыторыі руйнавалі землі паміж Нарвай і Бобрай.

У *Летапісе* першая згадка аб рускім паходзе на Яцвягію датычыць выправы кіеўскага князя Уладзіміра Святаслававіча ў 983 годзе. Потым значыліся паходы Яраслава Мудрага ў 1038 годзе і Яраслава Святаполкавіча ў 1112 годзе, якія ўмацоўвалі заходнія граніцы сваёй дзяржавы. У 1145 годзе распаложаныя ў сярэднім цячэнні Нарвы Драгічынская і Віская землі належалі Усеваладу Алегавічу.

Князь Даніла Раманавіч і яго сын Леў, а таксама мазавецкі князь Конрад з зяцем Данелем Семавітам арганізавалі паходы супраць Яцвягіі ў 1249, 1253, 1254/1255 гадах. У тым часе Данілу належалі Гародня, Драгічын і Мельнік ды адтуль рушыў паход на Яцвягію. У XIV стагоддзі на Падляшша нападалі крыжакі і руйнавалі рускія гарады Драгічын, Мельнік і Бярэсце.

У *Валынскім летапісе* пад 1255 годам значыцца захоп яцвяжскай краіны і план пабудовы ў ёй рускіх і мазавецкіх гарадоў. Паход 1254/1255 гадоў быў апошнім актам узброенага наступу саюза Мазоўша і Русі. З 1255 года Мазоўша вяло асобную палітыку, патранат над якой трымала Рымская курыя, заклікаючы мазаўшан на крыжовыя паходы супраць яцвягаў як і *схізматыкаў*. Уладзімірска-Галіцкая Русь на многія гады спыніла паходы на Яцвягію. У Тыкоціне магло знаходзіцца яцвяжскае пасяленне племя Злінцаў, якія адносна рана былі адтуль выцеснены. У XIII стагоддзі горад быў поўнасцю разбураны.

Пасля заваявання Літвой Падляшша мазавецкае асадніцтва з паўночнага ўсходу спынілася, а нават падалося назад. Раней мазаўшане адмовіліся ад гарадскіх акруг Тыкоціна і Свенцка. Польска-літоўская унія стварыла асновы для паўторнай каланізацыі. У гэты час развіваліся гандлёвыя зносіны паміж Польшчай і Літвой. Узнік гандлёвы шлях з Вільні ў напрамку Познані і Кракава цераз Гародню і Ломжу. Паўстала пераправа цераз Нарву ў Тыкоціне, а новы горад раскінуўся на паўднёвым беразе ракі. У 1425 годзе Тыкоцін атрымаў гарадскія хелмінскія правы.

У 1433 годзе Зыгмунт Кейстутавіч Тыкоцінам і навакольнымі землямі надзяліў смаленскага старасту Яна Гаштольда, які шчодра забяспечыў касцёл Святой Тройцы ў Тыкоціне. Пры Гаштольдах у Тыкоціне была ўзведзена Свята-Троіцкая царква. Тады звычайна ў той жа мясцовасці храмам усходняга і заходняга абрадаў прысвойваліся імёны аднолькавых нябесных заступнікаў. Аднак пазней быў зменены патрон царквы, а касцёл застаўся Свята-Троіцкім. У 1479-1480 гадах на багністым месцы пабудаваны быў кляштар бернардзінцаў.

Пасля сканчэння роду Гаштольдаў, якія 110 гадоў уладарылі Тыкоцінам, горад перайшоў ва ўладанне караля Зыгмунта Аўгуста, які пачаў аднаўляць замак. У XVI стагоддзі горад развіваецца ўздоўж ракі Нарвы. На захадзе ўзнік яўрэйскі квартал, які звалі *Качаровам*, на ўсходзе — *Новае Места* з асобным рынкам і Свята-Мікалаеўскай царквою, якая існавала раней 1559 года (на скрыжаванні сённяшніх вуліц 11 Лістапада і Школьнай). У 1573 годзе Свята-Мікалаеўская царква згарэла. Аб яе існаванні сведчыць таксама *люстрацыя* ад 1576 года, у якой значыцца, што *pop ruski* быў звольнены плаціць падатак ад 6,5 вулічнага прута грунту, які быў у яго распараджэнні. З аналізу інвентара ад 1571 года вынікае, што *русіны* складалі 16% ад агульнай колькасці насельніцтва, а *літоўцы* — каля 0,5%. У ходзе люстрацыі царквы *візітатар* 24 мая 1615 года запісаў: *... widząc złą dyspozycję i rządzenie się prezbitera natenczas tykocińskiej cerkwi, grunta do tejże cerkwi należące puszcza trzymać parafianom chrześcijanom, aby one zasiewali i usum fructum z nich prezbiterowi dicta proportione dawali, trzymali te grunta, aż do przybycia swiaszczennika...* Незадоўга да 1637 года тыкоцінскую царкву знішчыў пажар.

У 1637 годзе ў выніку намаганняў супрасльскага архімандрыта Нікадзіма Шыбінскага кароль Уладзіслаў IV даў прывілею на адбудову Свята-Мікалаеўскай царквы ў Тыкоціне, у якой, між іншым, чытаем: *... cerkiew Ruska niegdy w Tykocinie w mieście naszym w ulicy ku rzece pod tytułem św. Mikołaja założona z gruntu przez ogień jest zniesiona tak, że tylko sam plac został, a za tym ludzie religiey Greckiej w Tykocinie mieszkaiący bez nabożeństwa swego, bez ślubów małżeńskich, krztu y inszych ceremoniy chrześciańskich zostawać muszą życząc przeto, aby to mieysce na chwałę Bożą oddane pusto nie leżało, ponieważ tenże przyrzeczony W[ielebny] archimandryt z zakonnikami supraskiego monasteru, podeymuią się swym kosztem na zwysz wymienionym placu w Tykocinie cerkiew zbudować y odprawieniem w niey nabożeństwo wedle obrządków religiey Greckiey u Unii s Kościołem świętym Katolickim Rzymskim...* Да Брэсцкай уніі царкве належалі наступныя грунты: *... na cerkiew Ruską y na insze dobro tak mieście Tykocinie iak y na dwie włóce we wsi Sannikach leżące do tey cerkwi z dawna służące...* Каталіцкі пробашч Людвік Стэмпкоўскі таксама атрымаў ад жонкі Уладзіслава IV каралевы Цэцыліі-Рэнаты прывілею на царкоўны пляц разам з грунтамі ў вёсцы Санніках.

***(заканчэнне будзе)***

**(агс)**

# Паломніцтва ў Супрасльскі манастыр



*Выхад паломнікаў з сабора Святой Тройцы.*

— Многа людзей ідзе ў пілігрымку, каб даць ахвяру Богу і памаліцца за здароўе сваё і блізкіх, за добрую будучыню дзяцей. Вернікі ў малітвах просяць Бога дапамогі ў вырашэнні жыццёвых праблем, а вучні і студэнты моляцца, каб пераадолець цяжкасці ў вучобе. Паломнікі ідуць таксама, каб падзякаваць Госпаду за ўсе дабрадзействы, з якімі сустрэліся ў сваім жыцці. Некаторыя бяруць з сабой дзяцей, якія навыкаюць да падарожжа з Хрыстом ужо з маленства, — кажа Эмілія Троц, намеснік старшыні Брацтва праваслаўнай моладзі ў Гайнаўцы, якое арганізавала пілігрымку ў Супрасль.

Паломніцтва на святкаванні Супрасльскай іконы Божай Маці (10 жніўня) ішло з Гайнаўкі ўжо чацвёрты раз. Хаця пасля малебна з сабора Святой Тройцы выйшла 55 асоб, ахвотныя далучаліся яшчэ па дарозе і ў Супрасльскі манастыр прыйшло 65 вернікаў.

— Колькасць паломнікаў, якія ходзяць у Супрасль невялікая, але гэта больш яднае людзей і ствараецца тады сапраўды малітоўная сямейная атмасфера, якая спрые духоваму адраджэнню, — дадае Эмілія.

Дарога з Гайнаўкі ў Супрасль даўжэйшая, чым на Святую Гару Грабарку, куды ходзяць больш мнагалюдныя паломніцтвы. Сёлета паломнічала многа пажылых людзей. Найстарэйшыя жанчыны — 68-гадовыя Вера Скаўронская і Надзея Красоўская ні разу не пакарысталіся транспартам, які вёз асабістыя рэчы і харчаванне. Пераадолеў усе цяжкасці таксама і наймалодшы ўдзельнік, 10-гадовы Адам Кулай, які ішоў са сваёй 67-гадовай бабуляй.

Пілігрымы выйшлі з сабора Святой Тройцы 6 жніўня і за першы дзень прайшлі амаль 30 кіламетраў, спыніўшыся на абед у Свінароях, адслужыўшы малебен у Нараўцы, адпачыўшы ў Альхоўцы; на вечар дайшлі да Семяноўкі. На другі дзень накіраваліся ў Міхалова (26 км). Па дарозе сустракалі іх з малітвай і пачастункам жыхары Бандароў, Юшкавага Груда і Новай Волі. Трэці дзень, калі паломнікі мелі перайсці толькі 10 кіламетраў у Жэдню, аказаўся найбольш неспрыяльным, бо больш чым палову часу трэба было ісці з даждом. Апошні дзень (25 км) прывітаў іх сонцам і абмыў перад Супраслем праліўным даждом.

— Усе атмасферныя цяжкасці памагала пераадолець зычлівасць людзей і святароў, якія сустракалі нас па дарозе. Вялікае дзякуй усім тым, якія віталі нас на шляху, кармілі і прымалі на начлег, — кажа айцец Славамір Хвойка з сабора Святой Тройцы, які ўжо другі раз ішоў з паломнікамі ў Супрасль. — У час паломніцтва бывае так, як у жыцці чалавека: спачатку вялікі энтузіязм, які адыходзіць разам з фізічнай стомай. Але пілігрымы раніцай зноў набіраюцца свежых сіл і ўсе з новай энергіяй выходзяць на наступны этап. Таксама бывае і ў жыцці чалавека, якое з'яўляецца дарогай у Верхні Іерусалім.

Ніна Галёнка пайшла была першы раз у паломніцтва на Грабарку з пілігрымкай з Беластока, а калі пачалі хадзіць з Гайнаўкі — не прапусціла ніводнай, хадзіла і ў Яблачын і ўжо другі раз ішла ў Супрасльскі манастыр:

— Калі іду ў паломніцтва, ніколі не планую маліцца за канкрэтную патрэбу. Ведаю, што я грэшная і нічога не хачу патрабаваць ад Бога, толькі хачу стаць хоць крыху лепшай. У час паломніцтва шмат асоб штодзённа приступае да Споведзі і Прычашчэння, і людзі ў малітве перамяняюцца духоўна і становяцца лепшымі. Вельмі добрую малітоўную атмасферу ствараў айцец Славамір Хвойка, а роля святара вельмі важная. Усё адбывалася без спешкі, з малітвай.

Паломнікі вельмі ўдзячныя ўсім людзям, якія дапамагалі ім у дарозе, а таксама сям'і Аксантовічаў, якая арганізавала бясплатны транспарт.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Беларускія сляды ў Лембарку

Сёлета Беларускае культурнае таварыства „Хатка" з Гданьска ладзіла вандроўку ў паморскі горад Лембарк. Было гэта 3 чэрвеня, на Божае Цела. Выбралі мы гэты горад перад усім таму, што там пахаваныя беларускія дзеячы Мікола Дварэцкі і Эдуард Шафаловіч.

Па дамоўленасці з дачкой М. Дварэцкага, Галінай Эбертоўскай, наведванне горада пачалі мы ад яе гасціннага дому, у якім 15 жніўня 1988 г. памёр ейны бацька. Знаёмства са спадарствам Эбертоўскімі завязалася вельмі хутка. Усе мы хацелі даведацца як найбольш пра лёс бацькі гаспадыні. М. Дварэцкага ведала яшчэ пры жыцці Анна Іванюк, якой падарыў ён сшытак сваіх вершаў. Успамінае яго як сапраўднага беларуса, які некалі завітаў у клуб БГКТ у Гданьску. Публікаваў свае вершы ў „Ніве" пад псеўданімам Мікола Базылюк (Базыль


Мікола Дварэцкі, 1946 г. (?)

— імя яго бацькі). Як успамінае А. Іванюк, ён не мог пагадзіцца з тым, як у „Ніве" правілі ягоныя вершы, што ў канцы адмовіўся ад публікацыі іх у беларускім тыднёвіку. Вельмі гэта перажываў, не хацеў, каб нехта выпраўляў яго паэтычныя страфы. А вершы сыпаліся з яго паэтычнай душы пры кожнай нагодзе — на беларускай і на польскай мовах. Марыў, каб выдаць зборнік сваіх вершаў. На жаль, не ўдалося гэта пры ягоным жыцці. Перад смерцю пакінуў вершы Анне Іванюк, добрасумленнай беларусцы, з надзеяй, што можа яна некалі зможа ажыццявіць ягоную мару ўсяго жыцця. Хаця больш чым 10 гадоў мінула ад смерці М. Дварэцкага, вершы так і чакаюць выдання. Аказалася, што вершы захаваліся ў дачкі і яе дваюраднага брата Язэпа — у Калабжэгу. Можа варта было б падумаць „Ніве" ці „Белавежы" пра выданне зборнічка з нагоды 11 угодкаў смерці паэта? „Ніву" выпісваў ён з першага нумара. Як успамінае дачка Галіна, „Ніва" заўсёды была ў іх доме, а верш М. Базылюка „Рунь" даў загаловак першаму беларускаму альманаху „Белавежы", які выйшаў у Беластоку ў 1959 г. Гэты верш і пачынае літаратурны зборнік.

У зборніку „Рунь" апублікаваны яшчэ 3 вершы паэта: „Як лісцё свае дні аджыве", „Ноччу", „Зіма". Асобныя вершы публікаваліся на старонках „Нівы".

Біяграфічная даведка на канцы зборніка „Рунь" вельмі скупая: „Нарадзіўся ў 1903 г. [без дакладнага дня, якім было 6 верасня] у Выбаргу ў сям'і рабочага. Сямігодку скончыў на выдатна ў Вільні, але вучыцца далей не мог з увагі на матэрыяльныя ўмовы. Вымушаны быў заняцца краўцоўствам. Затым рыбачыў на Віленскіх і Аўгустоўскіх азёрах. У час акупацыі быў вывезены на прымусовую працу ва Усходнюю Прусію. Пасля вызвалення пасяліўся на Памор'і, дзе працаваў як рыбак і пчаляр. Друкавацца пачаў да 1939 г. Некалькі вершаў М. Базылюка друкаваў «Шлях Моладзі»". У даведцы не згадваецца сапраўднае прозвішча аўтара. Літаратурны псеўданім добра скрываў, як і прыведзеная біяграфія, сапраўдную даваенную і ваенную беларускую дзейнасць Міколы Дварэцкага, пра якую ў Народнай Польшчы лепей было прамаўчаць, каб звычайна выжыць.

Мне, як даследчыку, удалося выявіць некаторыя факты з даваеннага жыцця М. Дварэцкага, асабліва ягоную дзейнасць у Беларускай хрысціянскай дэмакратыі — хадэцкай партыі, якой кіраваў кс. Адам Станкевіч. Да вайны Дварэцкі жыў у Іказьні на Браслаўшчыне, недалёка Міёраў. Там і дзейнічаў. 25 лістапада 1928 г. удзельнічаў у З'ездзе прадстаўнікоў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Быў адным са 103 удзельнікаў з'езда. У справаздачы са з'езда („Беларуская Крыніца" н-р 54 ад 30 лістапада 1928 г.) ёсць яго выказванні як прадстаўніка Браслаўшчыны: „Нягледзячы на тое, што павет Браслаўскі рэпрэзентаваны на З'ездзе ня вельмі людна, ня трэба думаць, што насельніцтва не цікавіцца З'ездам і беларускай працай агулам. Хоць на кожным кроку спатыкаюцца перашкоды, — ідэалогія БХД пашыраецца без перастанку, бо гэта партыя ня ўзяўшая сваёй арыентацыі ні на Захад ні Усход, а толькі апіраючыся на народзе — безумоўна выбрала пайлепшы шлях. У Браслаўшчыне шырокае распаўсюджванне мае беларуская прэса, а асабліва „Беларуская Крыніца". Адміністрацыя нішчыць беларускую прэсу, найчасцей праз неакуратнае аддаванне яе на поштах падпісчыкам". На тым жа з'ездзе М. Дварэцкі ўвайшоў у Цэнтральны камітэт БХД, быў намеснікам сакратара Янкі Пазьняка (тады рэдактара „Беларускай Крыніцы"). Старшынёй БХД быў выбраны доктар Я. Гагалінскі, а віцэ-старшынёю — Яўхім Красоўскі. М. Дварэцкі і Я. Красоўскі (з Пастаўскага павета) прадстаўлялі праваслаўную фракцыю ў БХД. 27 лістапада 1928 г. менавіта яны ўзлажылі на рукі праваслаўнага архіепіскапа Віленскага і Лідскага мемарыял наконт увядзення беларускай мовы ў Праваслаўную царкву ў Заходняй Беларусі.

Раней, яшчэ вясной 1928 г., М. Дварэцкі за беларускую дзейнасць сядзеў у Лукішскай турме ў Вільні, разам з Булыгай і Краўчанкам. Пад залог заплачаны паслом Альбінам Стаповічам памянёных дзеячаў судовыя ўлады выпусцілі на свабоду.

10 снежня 1930 г. з Іказьні М. Дварэцкі пісаў у рэдакцыю „Беларускай Крыніцы": „Паважаны гр. Рэдактар! Не адмоўце надрукаваць ніжэйпаданае. З прычыны бандыцкага нападу, на віцэ-старшыню БХД Якіма Красоўскага, выражаю шчыры спагад у яго цярпеннях, а такжа жаданне найхутчэйшай папраўы здароўя. Спадзяюся, што гэны бандыцкі напад знойдзе шырокі водгук у масах беларускіх і гэтым выкрые напастнікаў дзеля належнага іх пакарання. Прыміце словы шчырай прыязні".

У 25-я ўгодкі свяшчэнства і беларускай працы кс. Адама Станкевіча М. Дварэцкі паслаў у жніўні 1939 г. свае віншаванні і ўспаміны з Браслаўшчыны. М. Дварэцкі вельмі цаніў знаёмства з ксяндзом, з якім пазнаёміўся падчас выбарчай кампаніі ў Сейм у 1922 г., калі на пасаду дэпутата кандыдатам быў ксёндз Адам Станкевіч. Пра кс. А. Станкевіча М. Дварэцкі ўспамінаў: „А калі йдзе аб адносіны да праваслаўных кс. Станкевіча, то ў Ягонай асобе бачыш пастыра душ хрысціянскіх бяз рожніцы веравызнання. І ня дзіва, што праваслаўныя йшлі пад сьцягамі БХД, бо там быў правадыр, катораму яны верылі".

Шмат можна знайсці вестак пра дзейнасць М. Дварэцкага на беларускай ніве ў даваенны час. Ёсць архіўныя дакументы і беларускі перыядычны друк, якія сведчаць пра гэта. Горш з пазнейшым перыядам, да якога таксама, як і даваеннага, М. Дварэцкі ў Народнай Польшчы не прызнаваўся. Хацеў спакойна жыць і гэтага жадаў сваёй сям'і. У 1939-1941 гадах працаваў настаўнікам у школе ў Міёрах, пасля быў праўдападобна (па сведчаннях Язэпа Бунта з Глыбокага) інспектарам асветы ў тых жа Міёрах — гэта ўжо ў час нямецкай акупацыі. Ад трагічнага лёсу зберaглі яго ўцёкі спярша ад саветаў, пасля ад немцаў, пасля ізноў ад саветаў. Дзецям пра сваю дзейнасць не гаварыў, каб ім не пашкодзіць. Сам апынуўся на Памор'і, каля Штутава ў канцы 1940-х гадоў. Адпусціў бараду, выглядаў як стары дзед. Такім у 1948 годзе адшукала яго жонка Вера, з дому Шук, родам з Драгуноў, што недалёка Друі. Сама яна яшчэ да вайны закончыла факультэт класічнай філалогіі ў Віленскім універсітэце.

З гэтага часу Вера і Мікола Дварэцкія (Dworzeccy) спакойна жылі ў Лашцы, каля Штутава, дзе ў 1949 г. нарадзілася ім дачка Галіна, а ў 1952 г. — сын Юрка. М. Дварэцкі працаваў крыху пуцявым абходчыкам у Гданьскай павятовай дарожнай управе ў Штутаве, пасля рыбачыў на моры, займаўся пчалярствам. У Штутаве меў пасеку са 120 вулляў. За мёдам прыязджалі да яго нават акцёры з Варшавы, напрыклад, Караль Штрасбургер. Як пчалавод вядомы быў на ўсю ваколіцу. Побач яго дому быў вялікі сад. Дом стаяў пад дубам. М. Дварэцкі быў таксама грамадскім дзеячам, а зарабляў працуючы пры скупцы буракоў. Пры іх хаце знаходзілася сапраўдная лазня, куды з'язджаліся сябры Міколы Дварэцкага з міжваеннага перыяду: Мар'ян Пецюкевіч, Язэп Найдзюк, Яўген Аніська, Алена Казлоўская, ксёндз Падзява. Жонка М. Дварэцкага, Вера, працавала настаўніцай.


Мар'ян Пецюкевіч у гасцях у Веры і Міколы Дварэцкіх у Штутаве (70-я гады).

У кастрычніку 1984 г. Дварэцкія прадалі дом у Штутаве і пачалі жыць то ў сына ў Руміі каля Гдыні, то ў дачкі ў Лембарку. Там памерла 16 ліпеня 1987 г. Вера Дварэцкая. Міколу цяжка было жыць без сяброўкі жыцця, таму, мабыць, праз год і сам памёр. Аня Іванюк успамінае спадарства Дварэцкіх як


Мікола Дварэцкі, 1988 г.

узор сужонства і ўзаемнага кахання ды сяброўства. Многія вершы М. Дварэцкі прысвяціў сваёй музе — жонцы.

Зяць Міколы Дварэцкага ўспамінае яго як вельмі добрага чалавека, які любіў паіграць на балалайцы і паспяваць беларускія народныя песні.

Пасля ўспамінаў пра М. Дварэцкага, разглядання фатаграфій і вершаў, калі перастаў ісці дождж спадарства Эбертоўскія завялі нас на могілкі, каб паказаць дзе пахаваны Вера і Мікола Дварэцкія. Там мы і развіталіся, бо Алесь Юзафовіч вырашыў паказаць нам яшчэ магілу Эдуарда Шафаловіча, сябра гданьскіх беларусаў. Памёр ён 27 студзеня 1986 г. на 46-м годзе жыцця. Паходзіў ён з рэпатрыянцкай сям'і каталіцкага веравызнання, лічыў сябе беларусам і актыўна дзейнічаў у гданьскім Аддзеле БГКТ. Цікавіўся гісторыяй Беларусі, звяртаўся да ўсіх, каб запісвалі тапаграфічныя беларускія назвы і берaглі беларускасць. Эдуард Шафаловіч быў па прафесіі лесніком, вельмі любіў лес і прыроду. Ці сустракаліся ў Лембарку на працягу 1984-1988 гадоў Эдуард Шафаловіч з Міколам Дварэцкім, цяжка сказаць. На могілках ляжаць не надта далёка ад сябе. Дарэчы, Шафаловічаву 12-томную Беларускую савецкую энцыклапедыю перадаў у маю бібліятэку Алесь Юзафовіч гаворачы: „Бяры, Эдзік уцешыўся б, што некаму яна спатрэбілася".

Другую частку дня адвялі мы на наведванне горада, які сапраўды вельмі атракцыйны для турыстаў. І варта яго наведаць будучы над морам, хаця б па дарозе з Гданьска ў Лэбу. Жыве ў ім каля 40 тысяч жыхароў. Вельмі прыгожа адноўлены Стары горад. Падобна як у Гданьску — вузкія вулачкі і прыгожыя камянічкі. Ляжыць над ракой Лэбай, над яе маляўнічай далінай. Захоўваецца частка абарончых муроў XIV стагоддзя і гатычны касцёл XV стагоддзя.

Старажытнае гарадзішча нагадвае пра багатую гісторыю Лембарка, які не раз мяняў сваю дзяржаўную прыналежнасць. Зараз у горадзе дзейнічае актыўна Таварыства немцаў, цудам амаль уцалеўшых ад вывазкі ў Нямеччыну ў 1945 годзе.

Варта, будучы над морам, заглянуць у гэты прыгожы паморскі горад, дзе пасля другой сусветнай вайны знайшлі сабе дом рэпатрыянты з-за ўсходняй мяжы і палякі з цэнтральнай Польшчы і на хвіліну задумацца над лёсам спачываючых у лембарскай зямлі беларускіх інтэлігентаў — Міколы Дварэцкага і Эдуарда Шафаловіча.

**Лена Глагоўская**

# Гайнаўскія інвестыцыі

Аб жыхарах Гайнаўкі можна смела сказаць, што баруць яны справы ў свае рукі. На паасобных вуліцах горада ствараюцца грамадскія камітэты пракладкі каналізацыйнай сеткі або будовы вуліц. Такіх камітэтаў у Гайнаўцы паўстала многа і маюць яны магчымасць выбіраць спосаб выканання інвестыцыі: падрадчыцкі (Гарадская ўправа пакрывае 40% коштаў) або гаспадарчы (Гарадская ўправа забяспечвае матэрыялы і тэхнічны нагляд, а камітэт дамаўляецца з выканаўцам наконт кошту інвестыцыі).

— Другі спосаб намнога лепшы, бо зніжае кошты інвестыцыі, — кажа Уладзімір Валкавыцкі, загадчык аддзялення будаўніцтва і інвестыцый Гарадской управы ў Гайнаўцы. — Цяпер будуецца каналізацыя на адрэзку ад ачышчальні да вуліц Аградовай і Вжасовай і на вуліцах квартала Новая-Лясная. Другое адгалінаванне ідзе ў напрамку квартала Мендзыторы — аж да вуліцы Торавай. У квартале Пашкі каналізацыю атрымаюць Злота, Сталёва, Медзяна і Квятовая вуліцы. Інвестарам выступае Прадпрыемства водаправодаў і каналізацыі. Грамадскія камітэты займаюцца таксама паляпшэннем праезджай часткі на сямі вуліцах: Гэнсяй, Чайкі, Сеўнай, Важыўнай, Палуднёвай, Круткай і Гранітовай.

Сёлета ў рамках „Кантракта для Белавежскай пушчы" Гайнаўка атрымала 490 тыс. зл. на пракладку каналізацыі, 1,1 млн. зл. на будову дарог, 750 тыс. зл. на мадэрнізацыю ацяпляльнай сістэмы (ліквідацыю малых кацельняў і выкарыстанне вытворчай магутнасці заводскай кацельні прадпрыемства „Фурнель"), 350 тыс. зл. на куплю сучасных смеццевозаў. Апрача гэтага распрацоўваецца стратэгія абясшкоджвання адходаў ва ўсіх гмінах у наваколлі Белавежскай пушчы. Спосаб абясшкоджвання адходаў будзе вядомы пад канец гэтага года і на гэтай падставе будзе прыняты план дзеянняў на чарговыя тры гады.

**Славамір Кулік**

# Зацьменне ў фотааб'ектыве



11 жніўня амаль 2 мільярды жыхароў Зямлі мелі нагоду паглядзець зацьменне Сонца. Была гэта вялікая падзея ва ўсім свеце, паколькі канчае яно другое тысячагоддзе. Сёлетняе поўнае зацьменне можна было назіраць у паласе, якая цягнулася ад усходняга ўзбярэжжа Канады да Бенгальскага заліва. Амаль 200 млн. людзей — жыхароў Англіі, Францыі, Нямеччыны, Аўстрыі, Венгрыі, Румыніі, паўночнай Балгарыі, Турцыі, Ірана, Ірака, Пакістана ды Індыі — магло захапляцца відовішчам поўнага зацьмення.

У Польшчы маглі мы назіраць толькі частковае зацьменне. На поўначы краіны Месяц засланіў толькі 80% Сонца, а на поўдні — 95%. Глядзець гэтае незвычайнае відовішча перашкаджала яшчэ пахмурнае неба. Каля гадзіны $11^{30}$ Месяц пачаў засланяць Сонца з заходняга боку, каб каля 13 гадзіны дасягнуць кульмінацыйны пункт, які трываў 2-3 мінуты. Тады на дварэ пачало як бы змяркацца. Апошні след Месяца знік з сонечнага дыска каля 14 гадзіны.

Поўнае зацьменне Сонца ў розных кутках свету здараецца кожныя 2-3 гады, а частковае — 2-5 разоў у год. Чарговае поўнае зацьменне Сонца ў Заходняй Еўропе будзе можна назіраць ажно ў 2081 годзе.

На здымку відаць 4 фазы зацьмення Сонца, сфатаграфаваныя мною ў Орлі.

**Тэкст і фота Міхала Мінцэвіча**

# Юбілейны V З'езд

З выпадку 55 гадавіны заснавання II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім 25-26 верасня 1999 года адбудзецца юбілейны V З'езд выпускнікоў і выхаванцаў школы.

Ахвотных удзельнічаць ва ўрачыстасцях калег арганізатары просяць пералічыць да 10 верасня суму 100 зл. на рахунак: **PKO BP w Bielsku Podlaskim Nr 10201345-32883-270-1** з прыпіскай: V Zjazd Absolwentów i Wychowanków II Liceum Ogólnokształcącego z BJN im. B. Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim, ul. Kopernika 4, 17-100 Bielsk Podlaski.

**Аргкамітэт V З'езда выпускнікоў і выхаванцаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім**

# Конкурс на гранты

**Управа Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь** аб'яўляе конкурс на малыя гранты для няўрадавых арганізацый і таварыстваў, якія дзейнічаюць на карысць беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. У ходзе конкурсу будуць разглядацца праекты, якія датычаць культуры, гісторыі, асветы, а таксама пазашкольных форм працы з дзецьмі і моладдзю. Не будуць разглядацца праекты, якія прадугледжваюць поўнае фінансаванне з боку Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь.

Прапановы трэба дасылаць да 15 кастрычніка. Вырашэнне конкурсу — 30 кастрычніка.

Рашэнне аб прызначэнні або непрызначэнні датацыі прыме Управа Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь.

Агульная сума датацый у 1999 годзе складзе суму каля 95 тысяч зл.

Дэталёвыя інфармацыі аб спосабе афармлення прапаноў можна атрымаць па тэлефоне або пісьмова па адрасе: *Centrum Edukacji Obywatelskiej Polska-Białoruś, ul. Lipowa 25 m. 3, 15-424 Białystok, tel./fax (0-85) 744 55 37.*

## Вось як можна напісаць, кіруючыся здагадкамі

**Адгалоскі**

У „Запісках памешанага" („Ніва" № 14 ад 4 красавіка г.г.) ёсць такі сказ: „... напэўна сам Панчанка не хацеў сядзець поруч з такімі літаратарамі, як Броўка ці Танк — ярымі камуністамі, калі яны былі і геніяльныя паэты. Ён меў гонар і для верных беларусаў быў адданым сынам радзімы". Вось як можна напісаць, кіруючыся толькі здагадкамі. З 1977 г. я з Максімам Танкам жыў у адным доме, часта сустракаўся з ім і бываў у яго на кватэры. І магу пацвердзіць, што ён з Панчанкам моцна дружыў да апошняга моманту. Калі я Танку па тэлефоне паведаміў пра смерць Панчанкі, то ён заплакаў, а потым прысвяціў яму адзін са сваіх апошніх вершаў. Дружба іх замацавалася яшчэ ў час вайны.

**Уладзімір Казбярук**

## Лянівыя сувязісты

З Трасцянкі ў вёску Бялкі праведзена тэлефонная лінія, якая праходзіць праз лес надлясніцтва Жэдня. Калі пойдзе дождж, то нікуды нельга дазваніцца, бо на праводы лягаюць мокрыя галіны. Аб гэтым надаела мне заяўляць у Аддзяленне сувязі ў Гайнаўцы, якое адказвае за тэлефонныя паслугі ў раёне. У пачатку жніўня манцёры сказалі, што надлясніцтва не дазваляе ім расчысціць лес пад лініяй. Тут неабходна падкрэсліць, што гэта адзіны тэлефон у вёсцы, а да найбліжэйшага тэлефона трэба ісці чатыры кіламетры. І калі б тады здарылася няшчасце і неабходна было вызваць хуткую дапамогу ці пажарную каманду, што тады рабіць? На маю думку, гэта не надлясніцтва ў Жэдні вінаватае, а толькі гайнаўскія сувязісты, якім не хочацца навесці парадак з тэлефоннай лініяй. **(мл)**

## Вёска маіх мараў — бяспечная вёска

Пад такім лозунгам праходзіў пластычны конкурс для школьнікаў у Нараўцы. Вучні пад кіраўніцтвам настаўніцы Аліны Ставіцкай (яна прафесійны мастак) падрыхтавалі 60 карцін. Шматлікія з іх тычыліся бяспечнай працы ў сельскай гаспадарцы. Пераможцамі ў конкурсе сталі Анна Кісла (I месца), Малгажата Скепка (II) і Юстына Кісялеўская (III). 25 рысункаў атрымалі вылучэнне. Аўтарамі іх з'яўляюцца, між іншым, Уршуля Павільч, Наталля Рубчэўская, Анна Матысюк, Альжбета Апольская, Барбара Харкевіч, Марта Шыманюк, Эмілія Бароўская, Міхал Леўша, Анна Калінoўская і Анна Андрушкевіч. **(гай)**

# Як жывецца

Валодзя нарадзіўся як трэці, наймалодшы Нікіфараў сын. Нікіфар, як у нас гавораць, пры саветах у 1940 годзе быў міліцыянтам і добра ведаў, як жывуць людзі ў саўгасах і калгасах Савецкага Саюза. Калі прыйшлі немцы, яму ў першых днях вайны ўдалося не трапіць у палон: вярнуўся ў родную вёску, яго не выдалі немцам. Потым Нікіфара забралі ў Нямеччыну на прымусовыя работы ў баўэраў. Калі асвабадзілі ізноў саветы, вярнуўся ў сваю вёску, на гаспадарку. Нікіфар добра ведаў, што трэба будзе дзецей вучыць, каб знайшлі сабе людскае месца ў жыцці.

Найстарэйшы, Адам, закончыў настаўніцкае вучылішча і стаў настаўнікам пад Гарадкам. Другі сын закончыў Акадэмію фізкультуры, цяпер працуе ў беластоцкай школе. Валодзя меў замілаванне да зямлі, дык пайшоў у сельскагаспадарчы тэхнікум у Беласток. Як наймалодшаму, яму наканавана было застацца на бацькавай гаспадарцы.

Валодзя ў тэхнікуме пазнаёміўся з Ганкай. Рашыў, што, калі закончыць вучобу, пяройме гаспадарку ды ажэніцца. Падумаў тады Нікіфар, што трэба купіць пляц у Беластоку, пабудаваць дом і туды перайсці, а сыну пакінуць гаспадарку. Як сказаў Нікіфар, так і зрабіў. Колькі гэта каштавала, яго справа. Цяпер жыве ў горадзе.

Ганка, як і Валодзя, былі шчырымі беларусамі, праваслаўнымі. Нарадзілася ў іх шасцёра дзяцей. Выхоўвалі іх добра, у пашане да роднага і веры. Павучылі, далі што маглі, парассылалі па свеце.

Найстарэйшы сын Піліп узяў за жонку праваслаўную суседку, абсталяваліся ў горадзе. Аня на вяселлі сваёй сяброўкі пазнаёмілася з Мечыславам, католікам, зацяжарыла, узяла шлюб у касцёле — выхоўвае дзяцей у мужавай веры. Ганка страшэнна гэта перажывала — у яе памяці незагойная пасляваенная рана. Але неяк крыху зжылася. Усё са сваімі суседзямі цяпер сварыцца, нервы пусцілі. Але, кажа, зяць у яе добры. Як у народнай прыказцы: „Зяць на дачцэ — нібы грошы ў кулацэ, а сын на нявестцы — як г... на трэсцы"... Толькі карова пагляду не мяняе, відаць.

**Мікалай Лук'янюк**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




*Мой адрас не дом і не вуліца, мой адрас...* Фота Міры ЛУКШЫ

## Пра прынца

Нейкі час таму камбаджыйскаму прынцу Нарадому Сіануку меў прысніцца сон, што д'ябал разгарнуў паляванне на доўгавалосых дзяўчын. І многія тысячы яго прыгожанькіх падданых пераляканіся прароцтва дый паабрэзвалі свае старанненька дагэтуль дагледжаныя прычоскі.

Два гады таму свет скаланула вестка не пра нейкі жудасны землятрус у бедных раёнах Трэцяга свету, а пра смерць брытанскай прынцэсы Дыяны. Мільёны народу прывыклі да пастаяннай прысутнасці яе радасцей і смуткаў у мас-медыях і, відаць, атаясамліваліся з ёю або прынамсі лічылі яе ўжо амаль родным членам сваіх сем'яў. Сёння тыя ж мільёны дружна пра яе забываюць і шукаюць сабе новых куміраў, а мас-медыі натужліва вядуць пошукі новых аб'ектаў масавага пакланення. Маем тут весткі і пра любоўныя ўпаданні ўдаўца па ёй прынца Чарльза, і пра семнаццацігадовы юбілей іхняга сына прынца Уільяма, які з гэтай нагоды здаў вадзіцельскі экзамен, а бацька падарыў яму аўтамабіль. Свет даведаўся падрабязна і пра тое, што манакійская прынцэса Караліна нарадзіла дачушку Аляксандру, а нейкага брытанскага 18-гадовага арыстакрата Дэвіса Плэйдэля-Бюўе, які паставіў свой шацёр у Нацыянальным парку Зімбабве, з'елі львы, толькі чэрап побач шатра астаўся.

Спакон вякоў народ, у тым ліку і наш, абагаўляе прынцаў і прынцэс. Масавыя мроі выяўляюцца ў казках пра жаніцьбу беднага бедняковага або ўдовінага сына з князёўнай або нават каралеўнай. У адной з казак Андэрсена каралева, маці каралевіча, калі ў яе дом прасіцца на начлег нейкае прамоклае дзяўчо і заяўляе, што з'яўляецца прынцэсай, рыхтуе госці пышную пасцель з дзевяці матрацаў. І пад іх падкладае, малаверная, гарошыну, каб пераканацца, ці прынцэса сапраўдная. Раніцай, пасля бяссоннай ночы, госця з'яўляецца перад гаспадыняй у сіняках і карычневых крывападцёках, наракаючы на цвёрдую і нявыгадную пасцель і даючы гэтым доказ сваёй блакітнакроўнай праўдзівасці.

А ці сёння, калі наш шлях праз жыццё выкладзены грашыма або іх нястачай, гаспадыня, калі даведалася б, што да яе ў начлег просіцца прынцэса, зажадала б аплаты з дадаткамі за раскошу і кліматычныя выдатнасці дома або і зусім адказала б блакітнакроўнай госці, тлумачачы, што няма вольнага месца? Дармова прыняла б! І найлепшую пасцель паслала б. Толькі з гарошынай была б праблема, бо на гарохавішчах буяніцца цяпер быллё або нават лес з грыбамі, а гарохавы суп вараць з нейкага парашку з брытанскай ялавічынай або бельгійскай курацінай. Усё ж такі існуе своеасаблівая лакмусавая папера, якая дазволіць выявіць сапраўдную прынцэсу або прынца. Гэтай паперай з'яўляецца звычайная газета, якую трымаеце перад сабою. Калі пакажаце яе хвалюючай вас асобе, а тая асоба пачне сінець і карычнявець ад злосці, можаце не сцелючы пасцель мець упэўненасць, што перад вамі аўтэнтычная прынцэса ці прынц.

**Адам Маньяк**



Мал. Алеся СУРАВА

Фрашкі пра нашых

## *Вуліца Вашэця*

Жыве па вуліцы Сянкевіча у Беластоку
Генрык Сянкевіч, аматар кніжак і кабет.
А ў цэнтры горада, у камяніцы-блёку
Ёсць Каліноўскі нейкі. Ён кажа пра сябе:
„А Каліноўскага то вуліца — мая,
Бо хто той Каліноўскі — невядома.
Каб літарай пазначылі ягонае імя,
То, можа, здагадаліся б людкове.
А так кажу усім — вось дачакаўся я
Ўжо вуліцы сваёй, хоць медалёў не маю,
Ні кніжак не пісаў, а ўся мая радня
«З тых Каліноўскіх?» — так пра нас пытаюць".
А, можа, лепей „невядомым" быць?
Суседу, Прухніку, вось вуліцу забралі.
А нават Краську (кляймо ж яму не прычапіць?!)
Выдзерлі імя з вуліцы, а кветкавай называлі.
А Мураваныя, Шырокія ды Грузкія,
Каменныя, Халодныя ды Вузкія —
Не прападуць ніколі ў гарадах зямных.
Дык вып'ем за „прапашчых" і за іх.

**Вандал Арлянскі**

## *Крыжаванка*



**Гарызантальна:** 4. мяса без касцей, 7. музычны твор у павольным, плаўным тэмпе, 8. мудрэйшая за вечар, 9. раскацістыя гукі грому, 10. вялікі турэцкі кінжал, 14. сусед чэха, 18. салодкі жоўта-чырвоны плод паўднёвага дрэва, 19. салодкая страва са звараных на вадзе ягад, 20. вулкан у Мексіцы, 5700 м, 21. пірат.

**Вертыкальна:** 1. савецкая ферма, 2. пуня, 3. порт на ўсходзе Італіі, 4. муніцыпальнае ўпраўленне, 5. вялікая афрыканская рака, 6. сасок, 11. радзіма ятагана, 12. 10 000 $м^2$, 13. манах Пячэрскай лаўры, аўтар „Аповесці мінулых гадоў", 15. вялікая французская рака, 16. паша, 17. запаленне слізістай абалонкі напр. носа. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 30 нумара**

**Гарызантальна:** ірвота, недахоп, рулявы, акуляры, тундра, аматар, асобіна, дзікун, чаканне, штанга.

**Вертыкальна:** Анкара, аддуха, ахвяра, іпрыт, валун, тавар, уборка, Дзісна, апагей, мазут, тукан, ранча.

Рашэнне: **Уладзімір Гайдук**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

Падвыпіўшага гаспадара вітае ў дзвярах сабака, які бурчыць і шэрсць яму ўстае дыбам.

— А ну, прызнайся, — звяртаецца гаспадар да жонкі, — чаго ты яму пра мяне нагаварыла!

* * *

Варожка бландзінцы:

— Ваша нешчаслівая лічба шэсць, а шчаслівая — пятнаццаць.

— Гэта праўда: у шэсць пачынаю працу, а ў пятнаццаць канчаю.

* * *

— Выяўлю табе найбольшы сакрэт жаночай красы, — гаворыць сяброўка сяброўцы, — трэба штодзень раніцаю з'есці галоўку цыбулі і зубок часнаку.

— І думаеш, што гэта астанецца сакрэтам?

* * *

— Па чым пазнаеце, — пытае бландзінка знаёмага псіхіятра, — што маеце дачыненне з вар'ятам?

— Стаўлю яму пытанне, адказ на якое не выклікае ніякіх сумненняў, напрыклад „Капітан Кук адбыў тры кругасветныя плаванні. Падчас аднаго з іх загінуў. Каторае гэта было плаванне?"

Бландзінка думае хвіліну і просіць лекара:

— Пастаўце другое пытанне; я не вельмі кемлю ў гісторыі.

* * *

Хлопец да дзяўчыны пры чарцы віна:

— Пі, будзеш ахвотнейшая...

Ад суседняга століка азываецца мужчына:

— Што? Яна можа быць яшчэ ахвотнейшая?!

* * *

— Чаму хочаце развесціся з жонкаю? — пытае суддзя беларуса.

— Я, просты мужык, ведаю, што калі пасаджу яблыню, дык збяру з яе яблыкі, калі пасею пшаніцу, дык і пажну пшаніцу...

— Гаварыце на тэму разводу, — напамінае суддзя.

— Я ж вось і пра гэта: пасеяў я маладых беларусаў, а выраслі рускія.